*Пять месяцев боролись мы с тяжёлым недугом и даже добились некоторых успехов: в ноябре и декабре ему стало гораздо лучше, но потом начался рецидив болезни...*

*Все медицинские средства, которые были в распоряжении лучших врачей, мы использовали, но всё бесполезно было...*

*День и ночь проводили мы у постели больного, стараясь облегчить его страдания, которые он так терпеливо переносил, веря в своё выздоровление. Коварная болезнь оказалась такой сильной, что любящее сердце любимого нами Томочки 1-го марта перестало биться...*

*3-го марта гроб с телом милого Томочки был перевезён в институт, где он так недолго работал, но успел завоевать симпатию сослуживцев и студентов. Там торжественно была отслужена гражданская панихида. Под звуки траурного марша вынесли гроб профессора на катафалк.*

*Вся процессия двинулась на Байково кладбище...*

*Впереди юноши и девушки несли многочисленные венки...*

*Над могилой дорогого Томочки были произнесены трогательные речи...*

*В 6 ч. гроб был опущен в могилу...*

*Да будет мир праху его!*

*Благодарю тебя, дорогой Ваня, и всю вашу семью за выраженное соболезнование по случаю кончины любимого нашего Томочки...*

*Высылаю несколько снимков последнего пути Томочки.*

*Целую.*

*Любящая Е. А.*

Пройдя через смутное сталинское время и войну, через скитания и невзгоды, не имея в Ленинграде собственного угла, наконец-то он нашёл утешение и приют в семье сестры Евгении в Киеве. Фома Антонович ушёл в мир иной, чувствуя любовь, сострадание, чуткую заботу родных и близких людей. В последний путь его провели достойно, отдав дань уважения и признания как учёному-педагогу и человеку. Об этом и поведали нам недавно отысканные эпистолярные документы середины прошлого XX века.

*2015*





***Алесь БЕЛЬСКІ***

## Асоба і творчасць Ф. А. Бельскага ў даследаваннях і публікацыях 2000-х гадоў: агляд

Фама Антонавіч Бельскі (1890—1952) — савецкі, украінскі, беларускі, расійскі і ўзбекскі вучоны ў галіне педагагічных навук, краязнавец, музеёлаг, педагог. Аўтар больш як 40 публікацый і рукапісных работ, шэраг з якіх мелі ініцыяльны, наватарскі характар. Ён зрабіў значны ўклад у развіццё народнай адукацыі, педагагічнай думкі, музейнай справы на Луганшчыне і ва Украіне. Адзін са стваральнікаў навуковых таварыстваў і музеяў на Данеччыне, працаваў на розных кіраўнічых пасадах у Краснадарскім педагагічным інстытуце, быў адным з першых прафесараў Магілёўскага педінстытута, актыўны арганізатар адукацыі і навукі ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў Бухарскім педінстытуце... [6; 8; 16].

Прыкметны ўсплёск цікавасці да асобы прафесара педагогікі Ф. А. Бельскага прыпадае на канец XX стагоддзя, пра што засведчылі даследаванні ўкраінскіх вучоных В. Курылы, Т. Анпілогавай, І. Ключневай і інш. На першы погляд, здарылася неверагоднае: як быццам адбылося другое нараджэнне чалавека і вучонага мінулай эпохі, пачалося, можна сказаць, духоўнае жыццё пасля смерці. На самай справе вяртанне імя і творчасці Фамы Антонавіча Бельскага ў гісторыка-навуковы кантэкст, запатрабаванасць яго ідэй і спадчыны на сучасным этапе развіцця педагогікі бачыцца з'явай цалкам заканамернай. Ф. А. Бельскі быў ля вытокаў станаўлення навукі, адукацыі, краязнаўства, культуры на Луганшчыне і ў цэлым на ўсходзе Украіны. Даследаванне асобы вучонага супала з пачаткам новай хвалі ўкраінскага нацыянальнага адраджэння і абуджэннем шырокай цікавасці да нацыятворных працэсаў, да культурна-духоўных і навукова-творчых набыткаў мінулага, спазнання перадумоў развіцця розных сфер грамадскага жыцця. Такім чынам, актуалізацыя гістарычнага дыскурсу ў грамадстве і навуцы абумовіла даследчыцкі зварот да напрацаванага вопыту, традыцый і навацый у педагогіцы, адукацыі і культуры 1920-х гадоў.

Сярэдзіна 1980-х гг. у СССР — пачатак так званай перабудовы, якая дала магчымасць вучоным у розных рэспубліках вывучаць уласную гісторыю, вяртаць забытыя імёны, звярнуцца да ідэй, канцэпцый мінулага часу. Менавіта тады з'явіліся першыя

публікацыі пра Ф. А. Бельскага ў Беларусі, найбольш прыкметную з якіх «З усімі правамі і перавагамі...» надрукавала «Настаўніцкая газета» ў рубрыцы з красамоўнай назвай «Вернуты з забыцця» [7]. Яе аўтар — Анатоль Бельскі (1949—1994), пляменнік Фамы Антонавіча, настаўнік-гісторык і краязнавец, на той час дырэктар Руднянскай васьмігадовай школы Капыльскага раёна. З яго артыкула па сутнасці і пачынаецца бібліяграфія публікацый сучаснага перыяду пра савецкага вучонага ў галіне педагагічных навук.

Згадка імя Ф. Бельскага, спасылкі на яго працы ёсць у артыкулах і даследаваннях, якія друкаваліся пры жыцці прафесара. Так, І. Ключнева ў артыкуле «Краеведение на Луганщине (20—30-е гг.)» (1999) робіць спасылкі на інфармацыйныя матэрыялы ў газеце «Луганская правда», дзе згадваецца Ф. Бельскі як арганізатар «Навуковага таварыства на Данеччыне» і інш. [11]. Цытаванне прац вучонага, паводле А. Адаменка, сустракаецца на старонках часопіса «Радянська школа» 1920-х гг. [1, с. 18]. Высветлілася, што было нечаканасцю, пра Ф. Бельскага пісалі нават на эміграцыі. А. Філіповіч, апавядаючы пра ўкраінскага паэта М. Зэрава, яго жыццё і працу ў Златапалі, добрым словам згадаў выкладчыка гімназіі Фаму Антонавіча Бельскага [5, с. 31—32, 107—108]. Бібліяграфія матэрыялаў ад сярэдзіны 1920-х гг. да сённяшняга часу пра дзейнасць і творчасць вучонага-педагога вымагае далейшага пошуку, удакладнення і сістэматызацыі.

На пачатку XXI стагоддзя даследаванне творчай асобы Ф. А. Бельскага і спадчыны атрымала актыўны і плённы працяг, набыло характар устойлівай тэндэнцыі. Мы імкнуліся да храналагічнай фіксацыі найбольш значных бібліяграфічных фактаў, якія даюць уяўленне пра сённяшні стан вывучэння і распрацаванасці тэмы «Прафесар Ф. А. Бельскі як арганізатар адукацыі і навукі». Далей і прапануецца кароткі аглядны экскурс у гэтую тэму з вылучэннем галоўнага, найбольш істотнага ў спісе публікацый пачатку 2000-х гг. пра вучонага-педагога Ф. Бельскага і яго дзейнасць.

На пачатак 2000-х прыпаў выхад бібліяграфічнага паказальніка «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі» (2002). Гэтае выданне пазнаёміла шматлікіх чытачоў на радзіме, у блізкім і далёкім замежжы з біяграфіяй вучонага-педагога і яго творчай спадчынай [16]. Бібліяграфічны даведнік адыграў важную пазітыўную ролю ў вяртанні імя прафесара Ф. Бельскага ў гісторыка-навуковы кантэкст, даў штуршок для больш шырокага і паглыбленага асэнсавання яго педагагічнай творчасці. Менавіта так меркаваць дае падставы значная колькасць спасылак на гэтае даведачнае выданне ў навуковым друку і інтэрнэце.

Ужо выбар тэмы кандыдацкай дысертацыі Т. Анпілогавай «Гуманітарна інтелігенція Донбасу в період нової економічної політики (1921—1928 рр.)» (2006) [4] абумовіў зварот да шырокага кола архіўных крыніц, працу з даваеннай перыёдыкай. Аўтарам гэтай работы выяўлены шматлікія факты і звесткі пра навукова-арганізацыйную і культурна-асветніцкую дзейнасць вучонага. Пры падрыхтоўцы шэрагу навуковых артыкулаў па тэме даследавання Т. Анпілогавай таксама скарыстана факталогія, якая датычыць луганскага перыяду жыцця і творчасці Ф. Бельскага, які ў 1920-я гг. быў перш выкладчыкам, а затым прафесарам Данецкага інстытута народнай адукацыі. Значэнне дзейнасці вучонага-педагога і асветніка грунтоўна раскрываецца ў артыкуле Т. Анпілогавай «Внесок Ф. А. Бельського у розвиток народної освіти та науки на Луганщині» (2012) [3], надрукаваны ў часопісе «Бахмутський шлях». Апрача іншага, у гэтай публікацыі гаворыцца пра ўклад прафесара Ф. Бельскага ў стварэнне педагагічнага музея пры Данецкім інстытуце народнай адукацыі, ролю ў арганізацыі секцыі навуковых работнікаў Луганшчыны, навуковага таварыства на Данеччыне і інш. Кандыдат гістарычных навук дацэнт Т. Анпілогава больш як дзесяцігоддзе вывучае і аналізуе дзейнасць Ф. Бельскага на Луганшчыне, з'яўляецца на сёння адным з яго аўтарытэтных біёграфаў. Да асобы гэтага вядомага прафесара Данецкага інстытута народнай адукацыі, вучонага-педагога і краязнаўцы яна звяртаецца ў навуковых дакладах і лекцыях.

У Беларусі гэткім жа актыўным даследчыкам спадчыны Ф. Бельскага, прапагандыстам яго педагагічных ідэй і поглядаў з'яўляецца А. Снапкова, кандыдат педагагічных навук, загадчык кафедры педагогікі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова. Асоба і дзейнасць вучонага разглядаецца ёй найперш у кантэксце гісторыі кафедры, пра што сведчаць надрукаваныя А. Снапковай артыкулы ў навуковых часопісах і зборніках «Из истории кафедры педагогики Могилёвского государственного университета им. А. А. Кулешова (30—60-е годы XX века)» (2012), «Первые преподаватели педагогики Могилёвского государственного университета им. А. А. Кулешова» (2012), «История кафедры как средство

идейно-нравственного и духовного воспитания студенческой молодёжи» (2012), «Научно-инновационный опыт кафедры педагогики МГУ имени А. А. Кулешова: история и современность» (2013) і інш. Першая грунтоўная спроба аналізу навукова-педагагічнай творчасці Ф. Бельскага зроблена А. Снапковай у артыкуле «В реальном времени и сквозь время: учёный-педагог Ф. А. Бельский и его творческое наследие» (2012) [10, с. 112—119]. На працягу апошніх гадоў яна пастаянна звярталася да навуковых ідэй, палажэнняў педагога-тэарэтыка і дыдакта, былога загадчыка кафедры педагогікі і псіхалогіі Магілёўскага педінстытута, пра гэта сведчыць цэлы шэраг навуковых публікацый: «Междисциплинарный подход в педагогических исследованиях как выражение постнеклассического типа научной рациональности» (2013), «Междисциплинарный синтез в современном педагогическом исследовании: актуализация проблемы» (2014), «Междисциплинарный синтез как методологический инструментарий развития педагогического знания» (2014) і інш. Трэба заўважыць, што геаграфія гэтых публікацый сягае за межы Беларусі: Екацярынбург, Чэбаксары, Чыта. Высвятляючы сутнасць крытэрыяў і стандартаў навуковасці, не адмаўляючы плюралізму як стратэгіі развіцця педагагічнай навукі, А. Снапкова адзначае: «Ещё в начале ХХ века Ф. А. Бельский, чей вклад в развитие педагогики в настоящее время переосмысляется и открывается заново, писал о том, что нормы и суждения о должном, о ценностях без объяснения законов и закономерностей, без научных доказательств есть либо высказывания оракула, либо пустые слова, но не научные положения» [18, с. 84]. Шматлікія спасылкі і цытаванне сведчаць пра тое, што сучасная даследчыца мэтанакіравана і сістэматычна звяртаецца да навуковага вопыту свайго аўтарытэтнага папярэдніка. Тут трэба сказаць, што на кафедры педагогікі, якой кіруе дацэнт А. Снапкова, годна шануюць памяць Фамы Антонавіча, ганарацца, што вучоны такога высокага прафесійнага ўзроўню быў ля вытокаў і на чале кафедры. Яму прысвечаны многія старонкі бібліяграфічнага даведніка «Кафедра педагогики МГУ имени А. А. Кулешова. От истоков до современности (1913—2013)» (2013).

Сярод корпуса тэкстаў публікацый пра Ф. Бельскага вылучаецца артыкул А. Адаменка «Работы Фомы Антоновича Бельского на страницах журнала “Просвещение Донбасса / Радянська школа”» (2014) [1]. Аўтар зрабіла грунтоўны аналіз шэрагу педагагічных работ вучонага, вылучыла іх актуальнасць і разгледзела ў кантэксце фарміравання тагачаснай перадавой педагагічнай



думкі, пошуку шляхоў развіцця адукацыі мінулага і сучаснасці. Знаўца гісторыі педагогікі А. Адаменка высока ацэньвае асобу Ф. Бельскага, яна на аснове аналітычнага агляду яго творчай спадчыны прыйшла да думкі-высновы: «Со страниц журнала перед нами предстаёт образ активного, деятельного, образованного человека с разносторонними интересами, болеющего за дело просвещения, имеющего собственный взгляд на пути совершенствования системы образования и внёсшего несомненный вклад в формирование научно-педагогического сообщества в Донбассе» [1, с. 19]. Тут трэба сказаць, што Алена Віктараўна Адаменка — доктар педагагічных навук, прафесар, яна адзначана знакам «Васіль Сухамлінскі», аўтарытэтны вучоны і таленавіты педагог. Даследуючы гісторыю ўкраінскай педагагічнай навукі, яна і раней звярталася да педагагічных даследаванняў і работ Ф. Бельскага [2], адзначала іх каштоўнасць. Артыкул «Работы Фомы Антоновича Бельского на страницах журнала “Просвещение Донбасса / Радянська школа”» стаў яе апошняй навуковай публікацыяй. Працу над артыкулам яна скончыла на пачатку 2014 года. Алена Віктараўна ведала, што артыкул пра Ф. А. Бельскага будзе змешчаны ў зборніку Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, чакала яго выхаду з друку. На вялікі жаль, Алена Віктараўна раптоўна цяжка захварэла і неўзабаве пакінула гэты свет.

На працягу апошніх пятнаццаці гадоў работы Ф. Бельскага сталі набыткам пошукава-даследчай дзейнасці маладых вучоных. Асабліва актыўна і досыць шырока да яго творчай спадчыны звярталіся дысертанты ці вучоныя маладзейшых пакаленняў у розных краінах, і найперш — ва Украіне. Імя Ф. Бельскага фігуруе ў аўтарэфератах дысертацый і публікацыях А. Пугач «Проблеми підготовки вчителя до професійної діяльності в українській педагогічній періодиці (20-ті — початок 30-х років ХХ ст.)» (2008), І. Стражнікавай «Підготовка вчителів початкових класів України у контексті європейського розвитку (на основі сучасних педагогічних досліджень)» (2011), М. Прынь «Охорона, вивчення і використання пам’яток історії та культури на Донеччині та Луганщині в 20-х — на початку 30-х рр. ХХ ст.» (2012), І. Ключневай «Розвиток краєзнавчих досліджень в Донбасі у 1917—1943 рр.: історико-географічний та просопографічний аспекти» (2013), Ю. Бажэнавай «Генерализация феномена коммуникативной культуры в педагогической науке» (2015) і інш.

У інфармацыйна-педагагічным полі звяртаюць на сябе ўвагу паглыбленым гістарычным і аналітычным падыходам публікацыі М. Прынь, цяпер ужо кандыдата гістарычных навук. У яе артыкуле «Педагогічний музей Луганського інституту народної освіти (1925—1930 роки)» (2012) [17] разглядаецца дзейнасць Ф. Бельскага як пачынальніка музейнай справы і асветніка, гэтая публікацыя стала асновай і для падрыхтоўкі вэб-тэксту «Музейна справа в Луганській області», які размешчаны на сайце ўкраінскай «Вікіпедії» [12]. М. Прынь адзначае, што «невтомна праця професора Ф. А. Бєльського на педагогічній ниві торувала шлях розвитку педагогічного музейництва на сході країни» [17, с. 125].

З арыгінальных, найбольш паказальных даследаванняў, дзе вылучаецца навукова-педагагічны досвед Ф. Бельскага ў якасці ўзорнага і крэатыўнага, трэба назваць дысертацыю Н. Асьмук «Ідеї реформаторської педагогіки в дослідженнях українських освітніх діячів 20-х — початку 30-х років XX століття» (2011) [14, с. 12] і яе змястоўныя публікацыі: «Вивчення прогресивного досвіду в галузі освіти: вітчизняні досягнення 20—30-х рр. XX ст.» (2013), «Зарубіжний педагогічний досвід як чинник модернізації професійної підготовки українського вчительства: до історії питання» (2013) і інш. Яна справядліва падкрэслівае, што сістэма поглядаў Ф. Бельскага на адукацыю і выхаванне складвалася на аснове грунтоўнага вывучэння і асэнсавання ім прагрэсіўнага замежнага вопыту: «Аналіз наукових публікацій та архівних матеріалів засвідчує, що організацією педагогічної освіти в Європі цікавилась значна частина освітніх діячів. Загальні питання підготовки вчительства за кордоном стали предметом вивчення Ф. Бєльського...» [13, с. 353]. Распрацоўваючы актуальныя псіхолага-педагагічныя праблемы, ён апеляваў да ідэй і метадалогіі Э. Меймана, Д. Дзьюі, А. Лая, А. Біне, С. Хола, М. Мантэсоры і іншых прадстаўнікоў эксперыментальнай педагогікі. Безумоўна, прафесар Ф. Бельскі быў надзвычай адукаваны вучоны-інтэлектуал, кампетэнтны і высокаэрудзіраваны ў сваёй прафесіі, па-сапраўднаму зацікаўлены ў развіцці педагагічнай тэорыі і практыкі.

Значнай і ў пэўнай ступені падагульняльнай працай стаў зборнік «І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Фамы Антонавіча Бельскага» (2012) [10], прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння і 60-годдзя з дня смерці вучонага. У яго



ўлучаны публікацыі з перыёдыкі, навуковых і даведачных крыніц, шэраг артыкулаў, напісаных спецыяльна для гэтага выдання. Уласна кажучы, гэта творчы праект беларуска-ўкраінскіх аўтараў, ён уяўляе сабой збор надрукаваных і напісаных тэкстаў пра Ф. Бельскага на сучасным этапе. У разнастайных дыскурсах і аспектах разглядаецца асоба і дзейнасць вучонага-педагога ў артыкулах А. Белай, А. Бельскага, Т. Анпілогавай, І. Нагрыбельнай, Т. Пучынскай, А. Снапковай, В. Паламарчук, Н. Старавойтавай, А. Філомонава, І. Ігнатчыка, В. Цішкевіча, Т. Яталь і інш. Каштоўныя ў кнізе мемуарныя матэрыялы, звесткі краязнаўчага характару. Можна сказаць, у гэтым выданні калектыўнымі намаганнямі створаны партрэт Ф. Бельскага — вучонага-педагога, асветніка і чалавека.

У апошняе дзесяцігоддзе ў асэнсаванні творчай спадчыны прафесара выяўны міждысцыплінарны характар. Ф. Бельскі ствараў не толькі псіхолага-педагагічныя даследаванні, але і займаўся наладжваннем гімназічнага друку і выдавецкай справы, кіраваў літаратурнымі, навуковымі гурткамі і працаваў з адоранымі дзецьмі, студэнтамі, спрычыніўся да арганізацыі першых навуковых таварыстваў у Луганску, адкрыцця тут музейных устаноў, станаўлення і развіцця музеязнаўства і краязнаўства ў данбаскім рэгіёне. На пачатку XX стагоддзя ён сваёй дзейнасцю спрыяў пашырэнню гуманітарнай і культурнай прасторы. Таму імя Ф. Бельскага трапіла ў абсяг зацікаўленняў і навукова-пошукавай дзейнасці гісторыкаў, краязнаўцаў, перакладазнаўцаў і іншых катэгорый даследчыкаў: С. Белаконя, А. Клімава, Я. Хрыкава, С. Вадатыкі, А. Прыня, Т. Іванюха, А. Паўлюка...

Інфармацыйна-бібліяграфічны фонд на персаналію Ф. А. Бельскага за апошняе дзесяцігоддзе папоўніўся шматлікімі публікацыямі і матэрыяламі. З найбольш значных даведачных крыніц, дзе пададзены біяграфічныя звесткі пра вучонага-педагога, трэба назваць наступныя энцыклапедыі і выданні ўніверсальнага характару: «Памяць: Капыльскі раён» (2001), «Беларуская энцыклапедыя» (2004; Т. 18, кн. 1), «На рубеже веков: к 100-летию со дня основания МГУ имени А. А. Кулешова» (2013), «Беларускае замежжа = Белорусское зарубежье» (2010), «Сузор'е беларускага памежжа» (2014).

Трэба зазначыць, што за апошнія пяць гадоў істотна пашырыўся корпус тэкстаў вэб-публікацый пра Ф. А. Бельскага, з'явіліся ў

інтэрнэт-прасторы электронныя версіі артыкулаў пра яго жыццё і дзейнасць, змешчаных ва ўкраінскім і беларускім друку. У медыйным інфармацыйным полі можна адшукаць звесткі пра вучонага-педагога, а таксама пра ўшанаванне памяці пра яго ў вышэйшых навучальных установах, дзе ён працаваў, і на малой радзіме — Капыльшчыне. Вось два прыклады: «Одне з секційних засідань конференції було присвячено роботам видатного педагога Фоми Бельського...» [9]; «Інфармацыйны час "Прафесар педагогікі Фама Бельскі". 20.08. Пачатак — 10.00. СШ № 2. Душэўская М. І.» [15].

Такім чынам, пачатак XXI стагоддзя засведчыў пра надзвычай прадуктыўную фазу ў асэнсаванні асобы і творчай спадчыны прафесара Ф. А. Бельскага. Праведзеная статыстыка публікацый і вывучэнне бібліяграфічных крыніц пераконвае ў тым, што дзякуючы працы шматлікіх вучоных яго імя ўвайшло ў кантэкст сучасных навуковых даследаванняў у галінах гісторыі педагогікі і адукацыі, краязнаўства і музеязнаўства.

## Літаратура


1. *Адаменко, Е. В.* Работы Фомы Антоновича Бельского на страницах журнала «Просвещение Донбасса / Радянська школа» / Е. В. Адаменко // Современное педагогическое знание: проблемы и перспективы развития: сб. науч. статей по итогам пед. чтений, посв. 100-летию кафедры педагогики, Могилёв, 17 дек. 2013 г. / под науч. ред. Е. И. Снопковой. — Могилёв: МГУ им. А. А. Кулешова, 2014. — С. 10—19.
2. *Адаменко, О.* Часопис «Просвещение Донбасса (Радянська школа)» як дзеркало проблем освіти 20-х років XX століття / О. Адаменко // Історико-педагогічний альманах. — 2012. — № 2. — С. 109—113.
3. *Анпілогова, Т. Ю.* Внесок Ф. А. Бельського у розвиток народної освіти та науки на Луганщині / Т. Ю. Анпілогова // Бахмутський шлях. — 2012. — № 3–4. — С. 92—96.
4. *Анпілогова, Т. Ю.* Гуманітарна інтелігенція Донбасу в період нової економічної політики (1921—1928 рр.): дис... канд. іст. наук: 07.00.01 / Т. Ю. Анпілогова; Луганський нац. пед. ун-т ім. Тараса Шевченка. — Луганськ, 2006. — 261 арк.
5. Безсмертні: зб. спогадів про М. Зерова, П. Филиповича і М. Драй-Хмару / Ін-т літ. ім. М. Ореста; ред. текстів та прим. М. Ореста. — Мюнхен, 1963. — 334, VII с.
6. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2004. — Т. 18, кн. 1. — С. 350—351.





7. *Бельскі, А.* «З усімі правамі і перавагамі...» / А. Бельскі // Настаўн. газ. — 1991. — 11 студз. — С. 5.
8. Бельскі Фама Антонавіч // *Бельскі, А.* Тут іх карані і вытокі: вядомыя людзі з Капыльшчыны ў свеце. — Мінск: Рэд. часопіса «Роднае слова», 2014. — С. 19—21.
9. В ЛНУ розповіли про найзнаменитішого луганського історика // Луганський національний університет імені Тараса Шевченка. — Режим доступу: http://www.luguniv.edu.ua/?z1=b,20.12.2012 р. — Дата доступу: 14.06.2014.
10. І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Фамы Антонавіча Бельскага / уклад. і камент. А. І. Бельскага; прадм. У. Т. Кабуша. — Мінск: Рэд. часопіса «Роднае слова», 2012. — 143 с.
11. *Ключнева, И. Н.* Краеведение на Луганщине (20—30-е гг.) / И. Н. Ключнева // Первые областные краеведческие чтения (г. Луганск, 28 мая 1997 г.): доклады и сообщения. — Луганск: ОУНБ им. А. М. Горького, 1999. — С. 19—22.
12. Музейна справа в Луганській області // Вікіпедія. — Режим доступу: uk.wikipedia.org/wiki/Музейна_справ... — Дата доступу: 2.04.2013.
13. *Осьмук, Н. Г.* Зарубіжний педагогічний досвід як чинник модернізації професійної підготовки українського вчительства: до історії питання / Н. Г. Осьмук // Педагогічний дискурс: зб. наук. праць / гол. ред. І. М. Шоробура. — Хмельницький: ХГПА, 2013. — Вип. 14. — С. 352—355.
14. *Осьмук, Н. Г.* Ідеї реформаторської педагогіки в дослідженнях українських освітніх діячів 20-х — початку 30-х років XX століття: автореф. дис. ... канд. пед. наук: 13.00.01 / Н. Г. Осьмук; Сумський держ. пед. ун-т ім. А. С. Макаренка. — Суми, 2011. — 20 с.
15. План мероприятий летнего отдыха детей в библиотеках Копыльской ЦБС на август 2013 года: Інфармацыйны час «Прафесар педагогікі Фама Бельскі». — Режим доступа: kopyl-books.info/?page_id=454 — Дата доступа: 8.09.2013.
16. Прафесар Фама Антонавіч Бельскі: бібліягр. паказальнік; Профессор Фома Антонович Бельский: библиогр. указатель / уклад. А. І. Бельскі. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. — 40 с.
17. *Принь, М. О.* Педагогічний музей Луганського інституту народної освіти (1925—1930 роки) / М. О. Принь // Праці Центру пам'яткознавства: зб. наук. праць / редкол.: О. М. Титова (гол. ред.) [та ін.]; Центр пам'яткознавства НАН України і УТОПІК. — Київ, 2012. — Вип. 21. — С. 119—126.
18. *Снопкова, Е. И.* Междисциплинарный синтез в современном педагогическом исследовании: актуализация проблемы / Е. И. Снопкова // Научный диалог. — 2014. — № 6 (30): Педагогика. Психология. — С. 82—92.

# III. ВЯНОК ПАМЯЦІ

***Яўген ГУЧОК***

## Пакутнік-пілігрым

***(паэма-эсэ)***

*Светлай памяці вучонага-педагога*
*прафесара Фамы Антонавіча Бельскага*
*(1890—1952 гг.)*

**I**

* * *

Вучонага веравызнанне — веды,
А храм яго —
Ўвесь Божы свет.

* * *

Канон і рытуал сапраўднае навукі
Закладзены на перспектыву —
На святло.

* * *

І ў навукі вочы ёсць,
А колер іх — нябесны,
І ў глыбіню нябесную яны ўзіраюцца.

* * *

Не ўсё у чалавеку сапсавана,
Заўжды ў яго становучая ёсць рыса;
Галоўнае — яе заўважыць навукоўцу-педагогу.

* * *

Заўжды навука — шчодрая...
Ў залежнасці ад шчодрасці
Тваёй істоты.

* * *

Калі вучоны — не паэт,
Вядома, ў пэўным сэнсе,
Дык будзе мець ён крылы пеўня.



**II**

* * *

Наваградак, Мсціслаў, Капыль
І іншыя мясціны Беларусі
Й сваім рэльефам да Швейцарыі падобны.

* * *

А княства Слуцкае у ВКЛ
З зямлі Капыльскай
Пачыналася.

* * *

Зямля Капыльская
Як складнік Случчыны і Беларусі
Заўжды была на таленты багата.

* * *

Хіба абыдзем памяццю Малевіча,
І Цішку Гартнага, і Чорнага, і іншых?!.
Лёс і да іх не літасцівы быў.

* * *

Як добра родны край пазнаеш,
Дык і планета, і Сусвет
Табе чужынцамі не будуць.

**III**

* * *

У Слуцак, у «Афіны Слуцкія»*,
У Слуцкую гімназію
Кіруецца Фама — Антонаў сын вучыцца.

* * *

Ліцэя Слуцкага статут
З'явіўся імпульсам стваральным
«Вялікае дыдактыкі» у чэшскім краі.

---

* «Слуцкімі Афінамі», «узорнай Слуцкай гімназіяй» называлі школу за рэгламентаванае жыццё, парадкі і сістэму навучання, выпрацаваныя яе статутам.

* * *

Пад дахам Слуцкае вучэльні
Лунаў над педагогамі і вучнямі
Дух Лока, Песталоцы і Русо.

* * *

Сіньёры* беларускія ўзгадвалі сабе і навучэнцам
Кірылу з Турава, Ефрасінню і Францішка з Полацка,
Сафію Слуцкую, Цяпінскага, Лышчынскага і іншых.

* * *

З аўдыторый знакамітай той вучэльні
Сярод выпускнікоў яе вядомых
Былі і Капіевіч, і Абуховіч, і Цэраскі...

* * *

Медалёвае срэбра «Слуцкіх Афін»
Фаму-юнака цімкавіцкага
Паклікала ў Кіеўскі ўніверсітэт.

**IV**

* * *

Як час ляціць! О alma mater!
Бывай, прасветлая карміцелька духоўная!
Цяпер — у свет, у людзі, ў школу.

* * *

Спадзвіжнік таленту,
Вядома, — праца, праца
І яшчэ раз — праца, свабодная, натхнёная.

* * *

Што без маральнага падмурку веды?!.
Што?!.
Яны вядуць да хітраванства і прыстасаванства.

* * *

Як педагог — палоннік розуму і сэрца,
Такімі ж будуць яго вучні
І адэпты.

* Так звалі настаўнікаў і выхавальнікаў Слуцкага ліцэя-гімназіі.



* * *

Па адным і ўсе разам адначасова
Вучні твае — аранжарэя нібыта;
Ты ж — руплівы для кожнага кветкавод.

* * *

Заўжды: і ў вучэльні, і дома —
Нябачна душа настаўніка
Апякуецца постаццю вучня.

* * *

Сапраўдны педагог!..
Ён і сабе, й настаўнікам —
Настаўнік.

* * *

Хай навучэнцы ведаюць,
Што і спіны педагогаў —
Надзейны і выратавальны шчыт.

* * *

Калі ж, нібы мякіна, мяккі педагог,
Граніт навукі да сябе
Мякіністых не падпускае навучэнцаў.

* * *

І прыкладам у яго рабоце
Былі заўжды
Таксама й «Слуцкія Афіны».

* * *

Музей — не маўзалей...
Ў музеі навуковым
Жывой гісторыі сляды адбіты.

* * *

А што асоба ёсць?!.
То шырыня і дабрыня душы
І светлы розум адначасна.

* * *

Грамадства без эліты — не грамадства,
Без вучняў звышадораных
Няма эліты.

* * *

Няма асобы — няма грамадства,
Няма грамадства —
Няма поўнакаштоўнага жыцця.

* * *

Й механізатару быць робатам —
Не годна;
Ён, да ўсяго, асобай быць павінен.

* * *

І фізкультурнік будзе
Пераважна больш культурнік,
Калі яго асобу настóяць на святле.

* * *

Даволі пра бар'еры!
Даволі пра заслоны!
А у грамадстве быць эліце!

## V

* * *

Не, педагог флюгаркай быць не можа;
Калі ж інакш,
Тады ён — проста прыслугач.

* * *

Такім быць, як усе, —
То лёс манкурта і духоўнага кастрата...
Авохці мне! Авохці мне!

* * *

І чым святлейшыя пасылы у навукі,
Тым болей цёмных перашкод
Ёй на шляхах яе рыхтуюць.

* * *

Хіба навука можа
Крылы мець і распраўляць іх,
Калі жыццё вучонага ў небяспецы?!



* * *

Зрываюць светлыя галовы з месца і з жыцця
Зайздроснікі, і цікуны, й даносчыкі...
А сёння безліч іх наўкол.

* * *

Падкоп пад навуку,
Яе зневажанне —
Калясмяротны прысуд вучонаму.

* * *

Калі замест сур'ёзнасці ў жыцці —
Страх арышту, а то й расстрэлу,
Прабачце, пра які прагрэс тут можа быць гаворка?!.

* * *

Грамадства спіць... не проста спіць,
А, да ўсяго, пахропвае магутна...
Навука і вучоны сабе такое не дазволяць.

* * *

Куды на абавязках ты заедзеш,
Калі ў цябе правоў няма?!.
Вядома, — ў нікуды.

* * *

Так, пры уладзе блуднай
Сябе адчуеш ты міжвольна
Выгнаннікам, вандроўнікам гаротным.

* * *

Гадзíць такой уладзе —
Душы уласнай і навуцы
Толькі гáдзіць.

* * *

І гора, і бяда краіны,
Калі ратуецца-вандруе безупынна
На ўласнае выратаванне педагог.

* * *

Беззаконне трывожнага часу
Пазбаўляе маёмасці і жытла
І ў страху ганяе людзей па свеце.

* * *

Уцёкі, уцёкі...
Кіеў, Херсон, Магілёў, Бухара, Ленінград...
Вось табе і «этапы большого пути».

* * *

Вучоны ў загоне! Куды падацца?!.
У загоне й Радзіма яго...
Бяда! Гора!

## VI

* * *

І па архівах шнараць-шукаюць,
І допыты ладзяць наўкола
У незалежных адносна настаўнікаў сёння.

* * *

І дзесьці побач — ў Казахстане і ва Узбекістане
Ратуецца Сцяпан Ліхадзіеўскі —
Паэт, літаратуразнавец, перакладчык.

* * *

Схіляйма нізка галаву
Перад сябрамі вернымі і жонкамі адданымі
Вандроўнікаў-пакутнікаў-вучоных.

## VII

* * *

У брудную палітыку
Навуку выхавання
Імкнуцца брудныя палітыкі ўцягнуць.

* * *

Падмацаванае вучэнне зброяй
У хуткім часе ператворыцца
У заканурак зачухмыраны.

* * *

Што можа узвышацца над навукай?!.
Жыцця падацель — Творца
Ці часам — нечысць сацыяльная.



* * *

На воз навукі, фігуральна кажучы,
Сягоння, годных адпіхаючы,
Шчымліва лезуць невукі і інтрыганы.

* * *

Хто пнецца дзецям затлуміць мазгі,
Той — не настаўнік,
А без забрала назіральнік ў ролі карніка.

* * *

Калі мундзір з навукі робяць,
Дык лепей быць у кацавейцы ці ватоўцы
Незалежным.

* * *

Якое тут мора думак,
Калі ўсё зведзена да міскі хлёбава
Для навукоўца, для паэта, педагога?!.

* * *

Рэктар — прабіральшчык...
Прарэктар — прапрабіральшчык...
І такія пасады сёння ёсць у ВНУ.

* * *

«Люди холопского звания...»
Сёння іх значна болей,
Чымся калісь было.

* * *

Калі навука мае загароджу,
Яна, вядома, — не навука,
А загон.

* * *

Хтось светлую навуку акармляе талентам сваім,
А хтосьці корміцца-жыруе з яе,
Калі ёй дыхаецца ледзь.

* * *

Вучэнне, што уцэнкі патрабуе,
Не мае права на жыццё,
Тым больш — на распаўсюд.

* * *

Калі навука й навукоўцы маршыруюць,
Вядома, куды дамаршыруюцца
Яны.

* * *

А хто купіруе навуку,
Той выбухоўку пад сябе
Падкладвае.

* * *

Вы выгналі навуку ў дзверы,
Да вас яна у вашы вокны не палезе...
Гібейце ў котлішчы сваім.

* * *

І як ні заганяй навуку ў стойла,
Яна над гэтым стойлам
З цягам часу пасмяецца.

## VIII

* * *

Ўдалечыні ад роднай Беларусі
Шчэ больш сябе ты беларусам
Адчуваеш.

* * *

Азяблую душу вучонага-пакутніка-вандроўніка
Адаграе шчэ й памяць аб Радзіме,
Адкуль пачаўся шлях яго ў навуку.

* * *

Каб не нялюдская ўлада, не аблудная,
Няўжо б не жыў я ў Беларусі
І для Беларусі?!.

* * *

І Случчына, а ў ёй Капыльшчына,
А ў іх і Цімкавічы, як і Беларусь,
Былі калісь адкрытымі, адданымі сябрамі.



* * *

Такі ўжо лёс у нас у беларусаў —
Вяртаемся дамоў,
Каб зноў свой дом пакінуць.

* * *

«Люблю Отчизну я, но странною любовью...»;
«Слишком мало Родину любить,
Надо, чтоб и она тебя любила...»

## IX

* * *

І між украінскіх сяброў
Так многа беларускага
Пачатку.

* * *

Як быць не ўдзячным Украіне?!.
Там распраўлялі свае крылы
Сам Багушэвіч і сама Пашкевічанка — Цётка.

* * *

Беларусізацыя! Украінізацыя! —
То планетарнага маштабу правакацыі,
Каб дух нацыянальны у народаў вынішчыць.

* * *

Дзе сябра мой, універсітэцкі аднакашнік,
Украінскі паэт і навуковец Мікола Зэраў?!.
Як і многіх іншых, яго жыцця пазбавіў НКУС.

* * *

Як падрахунак тых «працэсаў»,
Ды яшчэ ў прыдачу —
І Курапаты, і галадамор.

* * *

Так многа горычы у тых шляхах выратавальных,
Але яны жывая повязь
Між народамі.

* * *

На могільніку Байкавым у Кіеве,
Дзе спачывае геніяльны і трагічны Палуян,
Знайшоў прытулак вечны вучоны з Беларусі Бельскі.

* * *

А дальш на поўдзень, ў Крыме,
Спіць вечным сном зямным
Краса і гонар Беларусі — Багдановіч.

**X**

* * *

Навука — не мода і не фарсуха,
Але заўсёды цемрашалы
Яе імкнуцца асядлаць-перафарсіць.

* * *

Так, ёсць яшчэ навука — бы прыгожая фіранка,
Што не дае пабачыць
Велічы Сусвету.

* * *

Паміж навукай і жыццём — канва жывая,
А між навукай і дактрынай —
Непераходная канава.

* * *

Праз далягляд, што далучае неба да зямлі,
А не праз прораз дагматычных установак
Патрэбна навучэнцаў разглядаць.

* * *

Калі навуку грэе сонца,
Дык і дарога ёй да сонца;
Калі ж дайшла да аўтагена — яе чакае газавы балон.

* * *

Як добра, што дагматыкам не ўдасца
Цяпло й святло
Ад сонца адключыць.



* * *

Нябесная жыхарка на зямлі! —
Навука! Заўжды яе служыцелям
Было нялёгка.

* * *

Не носіць такую фуражку настаўнік,
Якая тулляй сваёй
Заўжды засланяе сонца.

* * *

Свядома шлях абраны на зямлі
І пры варунках неспрыяльных між людзьмі
Не будзе кабалой здавацца.

* * *

У сапраўднай навукі
І лямкі, і стропы
Працуюць заўжды на уздым.

* * *

Навуцы — светлы помнік,
А догме і дактрыне —
Вараннём ўпрыгожаны надгробак.

*2015*

***Людміла ЗАБАЛОЦКАЯ***

*** * ***

*Прафесару Ф. А. Бельскаму прысвячаецца*

**I**

Сініцы на яблынях ціўкаюць,
Рабіны лістотай шасцяць.
Баладна-сумотная з Цімкавіч
Пралегла сцяжына жыцця.
Адліжна-марозных кастрычнікаў
Нямала ў спрадвечнасць сплыло.

Чаму ж Ваша сэрца крынічнае
Дасюль сваё дорыць святло?
Датклівае слова, як раніца,
І думак, і рупнасці плён...
Зноў з Вамі нашчадкі параяцца,
Бо Вы — іх сумлення амбон.
Ішлі да навукі праз церні Вы...
Пякельна-нясцерпна было,
Калі злыдні хіжыя, шэрыя
Спынялі ў палёце крыло.
І плойму гаротнага, горкага
Спазналі. Навошта? За што?
...А родная хата за ўзгоркамі —
Кабета ў старым паліто.

**II**

Жыта жывое час чорны касіў,
Не ашчаджаў васільковай расы.
У магілёўскіх барах і лясах
Спеў-выспяваў і вілюжыўся страх.
Людзі ламаліся, як каласы,
І заціхалі ўначы галасы.
НКУС. Трыццаць сёмы. Над лёсамі — змрок.
Мала было жыццядайных дарог.
...Ён на радзіме ўрэшце жыве,
Ды прадчувае злавесны павеў
Долі ліхой. Існаваць напавер?
Што ж ты, Айчына, лютуеш, як звер?
Зводзіш са свету, і клейнай — у твар?
Быў Магілёў напачатку, як дар...
Бог міласэрны, мяне не карай!
О, як балюча душы паміраць...
Хто вінаваты ў паклёпах на Вас?
Распавядаюць людзі і час...

**III**

Да Цімкавіч не ходзяць цягнікі
З зямлі Узбекістана... Ці не дзіва?
Чаму ж не падае свае рукі
Праз сотні вёрст кляновая радзіма?



Як хочацца крынічнаю вадой
Перад заўчасным сконам наталіцца,
Над паўзабытай мамінай градой
З даспелымі суніцамі схіліцца.
Убачыць Магілёўскі інстытут,
Дняпру, нібыта продкам, пакланіцца.
Вяргіні на Капыльшчыне цвітуць...
Ды толькі ў сне вяргіні могуць сніцца.
...Кастрычнік. З неба спусціцца зіма,
А ў ёй, праз снегу шэпт, гучыць: «Фама».

* * *

*Родным Фамы Антонавіча Бельскага*
*на светлую восеньскую згадку пра яго*

Дождж жаўталісце кранае датклівае,
Золата, медзь і кармін на траве.
Восень, як памяць, такая ж журлівая,
Мройна ў ладдзі успамінаў плыве.
І па слядах, што даўно Вы пакінулі,
Мы адчуваем: на роднай зямлі,
Там, дзе нябёсы — глыбокія, сінія,
Вы ў сваю Вечнасць праз церні ішлі.
А манускрыпты з нябыту вяртаюцца,
Бачым імя на скрыжалях гадоў.
І патаемна душа вызваляецца,
Як напрадвесні рака з-пад ільдоў.
Быццам анёл над радзімай лунаецца.
Чуеце, жораў гукае здаля?
Вечнаю мудрасцю сэрцы кранаецца,
І не палохае болей зіма.
Над Магілёвам дажджы капяжыстыя,
Золатам, меддзю кастрычнік звініць.
З Вашага сэрца — крынічнага, чыстага, —
Да Цімкавіч цягнецца светлая ніць.

*2.10.2013*



*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

## Знікае дажджоў завеса...

«...Фама Антонавіч згадаў Міколу Зэрава, абмовіўся:
Паэт несмяротны, ён, як анёл, вяртаецца...»
*(З артыкула пра вучонага Ф. А. Бельскага)*

Так, паэт несмяротны.
Ён, як анёл, вяртаецца...
А кожны народны, як родны,
з памяці не выціскаецца.

Былое — нібыта восень,
не да канца зразумелая.
Родзічы выйшлі ў просінь
Памяці. Памяць — смелая!

Можа скрыжалі звесці
і для паклону вынесці...
Дзе рупімся мы пра весці, —
сляды чалавека не вымесці!

Анёлы і на нябёсах
пільнуюць людзей пасведчанні.
Дзе Бельскі з маркотным лёсам?
Сёння — у нашым вылечванні.

Зноў Самарканд з Какандам
пры цімкавіцкай крыніцы.
За Байкавым перакатам
Златапаль стаў заранiцай.

А магілёўскі прафесар
над выракам веку ўзносіцца...
Вясёлка на неба мосціцца,
знікае дажджоў завеса...

*12.10.2013*





*Валерій СТРІЛКО*

## Сіяч

*Світлій пам'яті професора Ф. А. Бєльського*

На покликання і долю
З ночі кликнули сваволю,

И Людина йде туди,
Де стрічає менш біди.

Схід і захід, північ, південь —
До людей Людина піде.

Сіять добре, світле, вічне...
Те, що в ніч сваволю вишле.

*14.11.2013*



*Ала ПЕТРУШКЕВІЧ*

## Слова

*Прафесару педагогікі*
*Фаму Антонавічу Бельскаму*

Слова высокае, вечнае,
што асвячае ўкленчаны
дух
Краю забранага,
што асвятляе душу,
што напаўняе ведамі —
Слова нясе асвету.
Слова такое дадзена
звыш
толькі моцным і вартым,
тым, хто заўсёды на варце
годнасці, праўды,
шляхетнасці.

І трымаць яго
з гонарам,
і жывым выйсці з полымя,
што тут шугае спрадвеку,
дадзена ім,
абраным,
каб выстаяць тут
і застацца
ў памяці —
Чалавекам.

*2015*

***Сяргей ЧЫГРЫН***

## Развітанне Фамы Бельскага з Беларуссю

Думны Кіеў замяла зіма,
І сярод людзей так шмат чужых.
Дык вяртайся ў родны кут, Фама, —
У Мінск, у Капыль да сваіх.

У Слуцк прыязджай — вяртайся
Да гаючых нашых крыніц,
Дзе моваю ты захапляўся,
Над кніжкамі ўкленчваў ніц.

Вяртайся ж, Фама, дамоў —
Ад чужых ты стаміўся дарог,
І радзіма цябе стрэне зноў...
Чуеш: кліча бацькоўскі парог!

— Згодны, — казаў гэтак Бельскі...
Ці, можа, мовіў не ён...
Ды ведаў: усім зараз кепска...
І сеў у цягнік на Херсон.



***Зоя ПАДЛІПСКАЯ***

* * *

*Светлай памяці прафесара
Фамы Антонавіча Бельскага*

Здаецца, да ўсяго ў жыцці
прывык.
А сэрца тужыць, рвецца
на радзіму.
А ці ідзе да Цімкавіч
цягнік?
Хвалююць сны пра родныя
мясціны.
А ці пасля зімы
ўзыходзіць рунь?
Ці насушыла мама
зверабою?
За доўгае расстанне
мне даруй,
Бацькоўскі край, душою
я з табою.
Мой абярэг — узорысты
ручнік,
Сатканы бацькам на
жыццё і радасць.
Святло навукі і любімых
кніг —
Наканаванасць лёсу ці
абранасць?
.....................................................
Знайшоў спачын на
кіеўскай зямлі,
Імкнуўся ж ён на Случчыну,
дадому.
Ідуць да станцыі жаданай
цягнікі,
Дзе пах вяргінь здымае
боль і стому.

Ідуць, Фама Антонавіч,
ідуць.
І памяць сэрца колы
не спыняюць.
І Вашы вучні рэй далей
вядуць,
А землякі — з усіх дарог
чакаюць...

*2015*

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

## Лебядзіная песня

*Памяці Фамы і Кацярыны Бельскіх*

Два лебедзі ў тумане пралятаі
над астравамі прывідных надзей,
лёс гнаў іх у нязведаную далеч
ад родных стром і добрых усіх людзей.

Нідзе ім прызямліцца не давалі
у негасцінны і трывожны час,
казалі ім: «Мы тут вас не чакалі,
бо вы занадта ўзнёслыя для нас!»

Хоць песня іх ў завоблаччы гучала,
ды і жыццё ляцела быццам сон,
лябёдка ўтомна першаю упала,
не вытрымаўшы лёсу жорсткі гон.

І лебедзь паляцеў самотны з песняй,
хоць адчуваў — сіл болей не стае...
Але ж у наасферы паднябеснай
не ўсе спадзеўкі спраўдзіў ён свае.



Была між іх шчымлівая надзея —
убачыць межы роднае вады,
дзе нарадзіўся колісь у гняздзе ён,
ды недасяжным стаўся шлях туды.

Не змог ляцець наш лебедзь без каханай,
з якой не разлучаўся ад вянца...
І сам упаў аднойчы ранкам-рана,
не даспяваўшы песню да канца.

**Васіль РАГАЎЦОЎ**

## Імгненні жыцця

*Светлай памяці прафесара Фамы Бельскага*

* * *

Жыццё, як таямніца,
загадкавае,
як міг —
непаўторнае...
І вечнае — як вера.
Без якой бяднее
Душа чалавека.

* * *

Самы кароткі і доўгі век —
у творцаў.
Адны і пры жыцці
паміраюць,
другія і пасля
працягваюць жыць.

* * *

І ў незвычайным
бывае звычайнае —
дзіўная прастата.

* * *

Людзі —
што дарогі:
то сыходзяцца,
то разыходзяцца...
А часам і сустракаюцца...
у тупіку.

* * *

І мудрыя
бываюць ахвярамі...
людской здрады.

* * *

Адны
блукаюць у поцемках,
а другія —
і пры святле,
якое засціць ім вочы.

* * *

Адны жывуць
са свайго мазаля,
другія —
з чужога...
А некаторыя —
з божае ласкі.
І ўсе
па-свойму шчаслівыя.

* * *

Багатым
часам зайздросцяць,
бедным —
спачуваюць...
А сціплых людзей
звычайна не заўважаюць.

* * *

І адзін у полі воін.
Калі побач —
абранніца.



* * *

Час
не стаіць на месцы.
Спыняецца толькі
гадзіннік.

* * *

Паказная слава —
прыжыццёвая,
а велічная —
вечная.



*Анатолій* ***ЯНКОВ***

## У вінок Ф. А. Бєльського

* * *

Десь ми є — у світах...
Цілий світ — у очах.
Ми — далекі світи.
В них нелегко ввійти.
Розчахнись, власний зір.
Подивись вище зір.
Чи найбільша зоря
Не найменша здаля?
Аж туди... не сягну —
У тісну далину...
Тільки зорі думок,
Тільки болі та рок.
Власний світ є в мені,
Там є ніч, там є дні.
Там є сонце й зірки,
Там є чорні дірки.
Проникай у рядки —
То весняні грядки.
Сходить перший росток —
То у світ у мій крок.

Не ховаюсь ніде.
Хто воліє — ввійде!
Невловимая мить!
Чуєш...? Світ аж бринить!

* * *

Життя — вогонь! Це спалах, жар і дим
В природних мудрих несхитних законах.
Земля — це плоть у ранах-териконах,
Навколо Сонця вічний пілігрим.
Жива вода, як кров усім живим,
Цілюща, життєдайна, первозданна.
З крижів гірських, з погаслого вулкана
І з хмар зіллється зіллячком живим...
Напоїть степ і спряжену пустиню,
Вгамує спрагу флорі соком життєвим,
Людей збадьорить хлібом яровим
І творчу працю возведе в святиню.
І жити б людям много і літ і зим...
Здолать би тільки зверхності гординю.



***Елена БАШАРКИНА***

## Талант призвания

*Памяти Фомы Антоновича Бельского*

Талант быть верным делу одному
В волнениях, надеждах и тревогах,
В высоких достижениях и взлётах
Душой быть верным делу своему.

Охватит география профессии
Немало городов и разных стран.
Оставят в жизни след свой Украина,
Россия, Беларусь, Узбекистан.



Вся жизнь под знаком честности и веры
В единстве неразрывном слов и дел,
И в размышленьях, поисках, свершениях
Профессор Бельский многое успел.

Прошёл по жизни гордо он, Учитель,
Непобеждённый духом человек,
Любитель книг, словесности ценитель,
Отдавший педагогике свой век.

Считал всё важным — как учить и думать,
И развивать природой данный дар,
И цель поставить верную для дела,
Чтоб результат труда всем нужным стал.

Наследие, достойное науки,
И временем проверенные мысли.
Продолжатся пусть в новых поколениях
Открытые для воплощенья смыслы.

*Декабрь 2013 г.*

## Вековой юбилей

*Кафедре педагогики МГУ*
*имени А. А. Кулешова посвящается*

Для воспитания учительства
Сто лет назад, когда был создан институт,
Свой путь был начат педагогикой,
Отсюда тропы кафедры идут.

За датой величавой вековою
Все судьбы педагогов, их служение
Нелёгкое, отважное, земное,
Достойное всецело восхищения.

Они — Тычинин, Бельский, Тумилович
И все, что свято дело их продолжили —
Зарудная, Иващенко, Сермяжко —
В профессии жизнь плодотворно прожили.

Сейчас объединяет педагогика
Всех тех, кто долгим опытом богат,
И юных, для кого аккорды первые
Пока ещё в профессии звучат.

Боготворим мы нашу педагогику,
Науку для взросления, ведь в ней
Слились и психология, и логика
Как торжество столетий, лет и дней.

Мы знаем, что сильна она по-прежнему,
Бесценный поиск дарит нам сполна.
Ты стала, педагогика, надеждою,
Такой, как путеводная звезда.

Мы искренне желаем нашей кафедре
Преуспевать всегда, везде, во всём,
Пусть каждому из нас она окажется
Родною, словно добрый отчий дом.

Душевных сил, здоровья, настроения —
Они ведь начинаниям залог.
В труде нелёгком — море вдохновения!
Ты верно служишь людям, педагог!

*Декабрь 2013 г.*





***Вольга СІМЧАНКА***

## У чаканні вяртання

*Светлай памяці Ф. А. Бельскага*

Ад матчынай нівы адрэзаны колас жытнёвы.
Пад сонцам паўднёвым яму б даспяваць. Не даспець...
Чаму ж так балюча на сэрцы пячэ вераснёвы
Світанак і барваю рдзее кляновая медзь?

Хіба так цяплом сагравае чужая зямліца,
Як маці пяшчотай свайго пацалунка дзіця?
Да роднай зямліцы б душою сваёй прытуліцца
І піць гэты водар мядзяны да паўзабыцця...

Так хочацца зноў у бацькоўскай хаціне прачнуцца,
Прайсці па сцяжынах крынічных далёкай вясны.
Да родных магіл, як да роду свайго, дакрануцца
І спраўдзіць шчымліва-самотныя, золкія сны.

О бездань трывог! О чаканне сустрэчы з Радзімай...
Мелодыя сэрца ліецца у пісьмах Фамы:
«Душа ў тамленні і радасці гэтай хвілінай...»
Вось толькі б не згінуць ў віхуры варожай зімы.

Каб толькі прыехаць!.. Ён марыў пра гэта штодзённа.
Нязбыўнай надзеяй ахутаны вобраз не знік.
...І з прагай вяртання імчаў у пакутах нястомна
Праз самае сэрца да Цімкавіч хуткі цягнік.

...Зноў восень на Байкавым узгорку сталіцы.
Кляновае лісце зрываецца, падае ніц.
У вечным спакоі, напэўна, цяпер яму сніцца,
Як раніцай сонца адлічвае срэбра крыніц...

## Кафедре педагогики — посвящение

От колыбели до седин глубоких,
Вобрав наследие классических идей,
Ты открываешь новые истоки
В святом призвании — учить учителей.

Пути нелёгкого ты смелый начинатель,
Растёт и крепнет твой научный арсенал;
Ведь не напрасно каждый твой преподаватель
Тебе частичку жизни отдавал.

Юркевич, Тумилович, Бельский —
Как отзвук памяти восходят имена;
Сермяжко, Фрейдман, Ярошевский —
Твоей истории живые письмена.

Они, как маяки в огромном море,
Указывали путь, куда нам плыть;
Почти по-пироговски, в вечном споре,
Учили не казаться нас, а быть...

Бесценный дар незыблемых традиций —
Основа прочная твоих научных школ —
Пусть в сердце тех идеей воплотиться,
Кто в педагогике призвание нашёл!..



***Василь ЛОБАН***

## Монолог-исповедь Фомы Бельского

**1.**

Была зима. Суровые метели
Стелились, словно волки, по земле,
Свирепо ветры день и ночь свистели.
Как в детстве давнем, было страшно мне.

Жалел всегда я путника в дороге,
Ведь сам тащился часто по снегу —
И предавался мысленно тревоге:
Дойти домой я вовремя смогу?



Но шёл упрямо, зло месил дорогу.
Колючий, стылый снег глаза слепил.
И силы истощались понемногу...
Зато, придя домой, я радость пил.

**2.**

Я детство своё вспоминаю,
О днях беззаботных грущу.
Я к детским годам улетаю,
Ушедшие силы ищу.

Я с книгой сидеть мог часами
И вместе с героем грустить...
Усталость пришла лишь с годами:
Мне трудно и верить, и жить.

Усталость порой забываю
Средь шелеста тихой листвы —
И снова о детстве мечтаю,
В былое я торю мосты.

Я с книгой пройду до могилы,
С героями буду тужить...
Но как же набраться мне силы,
Чтоб с книгой, как прежде, дружить?

**3.**

Как хочется мне жить,
Вернуться в юность молодым,
Чтоб сердце трепетно стучало
И было, как тогда, иным!

Но можно ль в юность удалиться?
Не повернуть нам время вспять...
Дано лишь сердцу возвратиться
И мою юность повидать.

**4.**

Как с былым навсегда распрощаться?
Встреч, друзей никогда не искать.
Сердце хочет с былым повстречаться,
Потаённо о прошлом страдать.

Не желаю с былым повстречаться!
Хотя был я тогда молодым...
Зимы, зимы суровые мчатся,
И истаял наивности дым.

С прошлым трудно и больно прощаться!
Снится снова родительский дом...
Стоит только о нём размечтаться —
Тут же снежный покатится ком...

**5.**

Как трудно по жизни пройти
И новым сберечь свой костюм.
Как трудно нам грязь обойти,
Но чистым оставить свой ум.

Нельзя же ведь всё оправдать.
Не спишешь всего со счетов...
Так что же? Страдать и гадать,
Что жизнь дарит больше шипов?

Как трудно спокойно шагать
По миру, где столько тревог.
...Не смог по-другому мечтать,
Других я не выбрал дорог.



## Рэзюмэ

Фама Антонавіч Бельскі — выпускнік Слуцкай гімназіі (1909), Кіеўскага ўніверсітэта (1913), прафесар педагагічных навук (1925). Ён працаваў і ўзначальваў кафедры педагогікі ў шэрагу вышэйшых навучальных устаноў Украіны, Расіі, Беларусі і Узбекістана. Трыццаць гадоў выкладаючы педагогіку і псіхалогію, ён унёс істотны ўклад у прафесійную падрыхтоўку настаўніцкіх кадраў. Прафесар Бельскі актыўна ўдзельнічаў у развіцці народнай адукацыі і навукова-педагагічнай думкі. Асабліва плённым і выніковым быў яго перыяд дзейнасці ў 1920-я гг., калі былі надрукаваны педагагічныя даследаванні і працы «Педагогіка як навука», «Вывучэнне здольнасцей дзяцей», «Арганізацыя школ для адораных дзяцей», «Вымярэнне паспяховасці навучэнцаў па стандартызаваных тэстах», «Арганізацыя навуковай работы», «Мінулае нашага краю», «Педагагічны музей, яго арганізацыя і культурна-асветная дзейнасць» і інш. Навуковая, арганізацыйная і педагагічная дзейнасць Ф. А. Бельскага мела шмат у чым пошукавы, наватарскі і апераджальны характар. Вучоны-педагог з годнасцю прайшоў свой жыццёвы шлях, на якім яму выпалі радасці і нягоды, творчыя ўзлёты і цяжкія хвіліны.

У кнігу ўключаны біяграфічныя і мемуарныя матэрыялы, новыя артыкулы пра жыццё і дзейнасць прафесара Ф. А. Бельскага. Гэты зборнік з'яўляецца працягам папярэдняга выдання «І прызванне, і лёс» (2012).

## Резюме

Фома Антонович Бєльський — випускник Слуцької гімназії (1909), Київського університету (1913), професор педагогічних наук (1925). Він працював і очолював кафедри педагогіки в ряді вищих навчальних закладів України, Росії, Білорусі та Узбекистану. Тридцять років викладаючи педагогіку і психологію, він зробив істотний внесок у професійну підготовку вчительських кадрів. Професор Бєльський брав активну участь у розвитку народної освіти та науково-педагогічної думки. Особливо плідним і результативним був його період діяльності в 1920-і рр., коли були опубліковані педагогічні дослідження і роботи «Педагогіка як наука», «Вивчення

здібностей дітей», «Організація шкіл для обдарованих дітей», «Вимірювання успішності учнів за стандартизованими тестами», «Організація наукової праці», «Минуле нашого краю», «Педагогічний музей, його організація і культурно-просвітницька діяльність» та ін. Наукова, організаційна та педагогічна діяльність Ф. А. Бєльського мала багато в чому пошуковий, новаторський і випереджальний характер. Вчений-педагог із честю пройшов свій життєвий шлях, на якому йому випали радощі й прикрощі, творчі злети і важкі хвилини.

У книгу включені біографічні та мемуарні матеріали, нові статті про життя і діяльність професора Ф. А. Бєльського. Ця збірка є продовженням попереднього видання «І покликання, і доля» (2012).

## Резюме

Фома Антонович Бельский — выпускник Слуцкой гимназии (1909), Киевского университета (1913), профессор педагогических наук (1925). Он работал и возглавлял кафедры педагогики в ряде высших учебных заведений Украины, России, Беларуси и Узбекистана. Тридцать лет преподавая педагогику и психологию, он внёс существенный вклад в профессиональную подготовку учительских кадров. Профессор Бельский активно участвовал в развитии народного образования и научно-педагогической мысли. Особенно плодотворным и результативным был его период деятельности в 1920-е гг., когда были опубликованы педагогические исследования и работы «Педагогика как наука», «Изучение способностей детей», «Организация школ для одарённых детей», «Измерение успеваемости учащихся по стандартизированным тестам», «Организация научной работы», «Прошлое нашего края», «Педагогический музей, его организация и культурно-просветительская деятельность» и др. Научная, организационная и педагогическая деятельность Ф. А. Бельского имела во многом поисковый, новаторский и опережающий характер. Учёный-педагог с честью прошёл свой жизненный путь, на котором ему выпали радости и горести, творческие взлёты и трудные минуты.

В книгу включены биографические и мемуарные материалы, новые статьи о жизни и деятельности профессора Ф. А. Бельского. Этот сборник является продолжением предыдущего издания «И призвание, и судьба» (2012).



## Summary

Foma Antonovich Belsky was a graduate from Slutsk school (1909) and the University of Kiev (1913), to become Professor of Education (1925). He worked at and also headed several departments of pedagogy in a number of higher educational institutions of Ukraine, Russia, Belarus and Uzbekistan. Thirty years of Professor Belsky's pedagogy and psychology teaching experience made a significant contribution to the training of the teaching staff. Professor Belsky actively participated in the development of public education, as well as academic pedagogical concepts. The 1920s saw his most fruitful and productive period during which his pedagogical and research works were published: «Pedagogy as a Science», «Studying Children's Abilities», «Organization of Schools for Gifted Children», «Students' Progress Assessment by Standardized Tests», «Organization of Research Work», «The Past is our Land», «A Pedagogical Museum, Its Organization and Cultural and Educational Activities», etc. F. A. Belsky's research, organizational and pedagogical activities were in many ways exploratory, innovative and advanced. Both a scholar and a teacher, Professor Belsky lived an honorable life, facing joys and sorrows, creative soaring and times of trouble.

The book includes biographical materials and memoirs, new articles about the life and work of Professor F. A. Belsky. This volume is a sequel to the previous edition «The Vocation and the Destiny» (2012).

# Каментарыі

Гэты зборнік склалі новыя артыкулы пра вучонага-педагога прафесара Ф. А. Бельскага (1890—1952), які працаваў у вышэйшых навучальных установах Украіны, Беларусі, Расіі і Узбекістана. Іх аўтары — вучоныя і даследчыкі з розных краін. Сабраныя разам біяграфічныя матэрыялы даюць дастаткова поўнае ўяўленне пра жыццё, дзейнасць і творчую спадчыну Ф. А. Бельскага. Зборнік з'яўляецца працягам папярэдняга выдання «І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Фамы Антонавіча Бельскага» (2012).

## I. БІЯГРАФІЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

### Метрическое свидетельство (с. 5)

Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 1. (Архіў з 1999 г. захоўваецца ў сям'і А. І. Бельскага, г. Мінск).

Дакладнасць копіі засведчана ў канторы Златапальскага натарыуса Уладзіміра Дзмітрыевіча Шчарбака 7 чэрвеня 1917 г. (рэестравы № 623).

Тэкст пададзены з захаваннем тагачасных норм правапісу і арфаграфіі.

### Автобиография академического пенсионера профессора Бельского Фомы Антоновича на 5 августа 1947 года (с. 5)

Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 7.

У аўтабіяграфіі, напісанай 10 жніўня 1942 г., ёсць наступныя звесткі:

«Сначала моя педагогическая деятельность протекала в средней школе, а именно:

| Наименование школы | Должность | Годы работы | Продолжительность лет, месяцев |
|---|---|---|---|
| 1. Златопольская мужск. и женск. гимназии | Препод. психологии, педагогики, рус. яз. и лит. | С 1/VIII-1913 по 30/IX-1918 | 5, 1 |
| 2. Александровская смешанная гимназия | | С 1/X-1918 по 1/IX-1920 | 1, 11 |

<...> Преподавание в высшей школе я начал в 1920/21 уч. г.».

У канцы гэтага варыянта аўтабіяграфіі адзначаецца:

«Принимая участие в общественной жизни, работе научных учреждений, профессиональных организаций, я выполнял такие обязанности:

1. Был организатором и первым ответственным секретарём Ворошиловградской секции научных работников в 1925/26 гг. и 1927/28 уч. г.

2. Член Совета горбюро Краснодарской секции научных работников (1935—1936 гг.).



3. Организатором и ответственным секретарём Научного общества на Донетчине (1926—1929 гг.).

4. Председателем педагогической секции Научного общества на Донетчине (1926—1929).

5. Ответственным секретарём Ферганской секции научных работников (1938—1939 гг.). <...>

Во время научной конференции Бухарского педагогического института, состоявшейся 25—30 апреля 1942 года, мною был прочитан доклад "Воспитание мужества и героизма у советского школьника"».

### Автобиография Бельского Фомы Антоновича (с. 7)

Упершыню — біягр. даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский». — Мінск: Энцыклапедыкс, 2002, с. 15, дзе змешчаны адрозны варыянт аўтабіяграфіі ад 30.VIII.1950 г., які дапоўнены звесткамі з аўтабіяграфіі 1951 года.

### Хронология научно-педагогической деятельности Ф. А. Бельского (с. 8)

Упершыню — бібліягр. даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский», с. 13.

Храналогія складзена паводле наступных крыніц: Личный листок по учёту кадров: Бельский Фома Антонович (15.09.1947) // Личный архив профессора Ф. А. Бельского. — Папка 1. — Оп. 1. — Ед. хр. 7; Трудовой список профессора Бельского Фомы Антоновича // Личный архив профессора Ф. А. Бельского. — Папка 2. — Оп. 2. — Ед. хр. 3.

Храналагічны спіс дапрацаваны спецыяльна для гэтага выдання.

Апрача звестак аб працоўнай дзейнасці, у асабістым лістку па ўліку кадраў таксама адзначаюцца наступныя моманты:

1) Знание иностранных языков и языков народностей СССР — «немецкий, французский, украинский, белорусский».

2) Медалью «За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.». награждён 6 июня 1945 г.

3) Домашний адрес: г. Ленинград, Биржевая линия, д. 4, кв. 137.

«Трудовой список Бельского Фомы Антоновича» быў складзены ў Чаркаскім інстытуце сацыяльнага выхавання, дапаўняўся ў Паўночна-Каўказскім аграпедагагічным інстытуце, Магілёўскім педагагічным інстытуце, Какандскім вячэрнім педагагічным інстытуце.

У працоўным спісе зроблены спасылкі на даведкі, пазначаны нумары загадаў, прыведзены дакладныя даты.

На другой старонцы кніжкі маецца асабісты подпіс прафесара Ф. А. Бельскага і пазнака: 1932 24/V.

### Справка Донецкого института народного образования (с. 10)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 9.

Гэтая даведка — копія арыгінала, якая была заверана 1.02.1950 г. у І Ленінградскай натарыяльнай канторы:

«Я, государственный нотариус I Ленинградской нотариальной конторы Родионова М. К., свидетельствую подлинность предстоящей на этом документе подписи Голубевой Дарьи Порфёновны, гр. переводчицы с украинского языка на русский, сделанной ей собственноручно в моём, Нотариуса, присутствии. Самоличность гр. Голубевой Д. П. проверена. Взыскано три рубля марками госпошлины. Город Ленинград. 1 февраля 1950 г. По реестру № 16914».

### Заява Ф. А. Бєльського до Правління Донецького ІНО (с. 11)

Дакумент упершыню выкарыстаны А. І. Белай у артыкуле «Станаўленне асобы Ф. А. Бельскага як вучонага-педагога», змешчаным у зб.: І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Фамы Антонавіча Бельскага / уклад. і камент. А. І. Бельскага; прадм. У. Т. Кабуша. — Мінск: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2012, с. 71.

Арыгінал захоўвацца ў архіве Луганскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. — Ф. Р-416. — Воп. 1-л. — Адз. зах. 26. — С. 111, 111зв.

Копія дакумента забяспечана загадчыцай архіва В. М. Харунжай.

На заяве Ф. А. Бельскага маецца віза «Сержанову. На засідання правління від 17.І.1928».

Сяржанаў быў сакратаром Праўлення Данецкага інстытута народнай адукацыі (ДІНА).

*Лай Вільгельм Аўгуст* (1862—1926) — нямецкі педагог, тэарэтык эксперыментальнай педагогікі. Аўтар прац «Эксперыментальная дыдактыка» (1903), «Школа дзеяння» (1911) і інш.

*Шульцэ Рудольф* (1884—19..?) — нямецкі псіхолаг і педагог.

Працы Р. Шульцэ выдаваліся ў перакладзе на рускую мову: «Техника психологического и педагогического эксперимента» (1912) з прадмовай А. Ф. Лазурскага, «Практика экспериментальной психологии, педагогики и психотехники» (1926) з прадмовай Л. С. Выгоцкага і А. Р. Лурыя.

### Удостоверение Краснодарского педагогического института им. 15-летия ВЛКСМ (с. 13)

Упершыню — зб.: І прызванне, і лёс, с. 123.

Дакумент скарыстаны ў агглядзе архіва прафесара Ф. А. Бельскага, падрыхтаваным А. У. Бельскай.

### Удостоверение Могилёвского государственного института им. М. Н. Покровского (с. 13)

Упершыню — зб.: І прызванне, і лёс, с. 123.

Дакумент скарыстаны ў агглядзе архіва прафесара Ф. А. Бельскага, падрыхтаваным А. У. Бельскай.



### Справка Могилёвского государственного института им. М. Н. Покровского (с. 14)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 12.

### Справка Государственного объединённого педагогического и учительского института им. Молотова (с. 14)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 17.

### Удостоверение Узбекского педагогического института им. Молотова (с. 14)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 18.

Копія даведкі заверана ў Натарыяльнай канторы Ферганскай вобласці 5.07.1938 г., № 1499. Натарыусам пазначана месца жыхарства Ф. А. Бельскага: вул. К. Маркса, д. 47.

### Ходатайство в Народный комиссариат социального обеспечения УзССР (с. 15)

Упершыню — зб.: І прызванне, і лёс, с. 124.

Дакумент скарыстаны ў агглядзе архіва прафесара Ф. А. Бельскага, падрыхтаваным А. У. Бельскай.

### Справка Узбекистанского государственного педагогического института им. Молотова (с. 16)

Друкуецца ўпершыню паводле рукапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 20.

Копія даведкі заверана ў Натарыяльнай канторы Ферганскай вобласці 7.08.1938 г., № 1662. Натарыусам пазначана месца жыхарства Ф. А. Бельскага: вул. Крупскай, 28.

### Из заявления Бельского Ф. А. в Бухарскую городскую комиссию (с. 17)

Друкуецца ўпершыню паводле рукапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 26.

Фрагменты гэтага дакумента скарыстаны ў агглядзе архіва прафесара Ф. А. Бельскага, падрыхтаваным А. У. Бельскай і змешчаным у зб.: І прызванне, і лёс, с. 121, 122.

### Справка Бухарского союза работников высшей школы (с. 18)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 22.

### Справка Союза вузов и научно-исследовательских учреждений (с. 19)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 23.

### Справка Комиссии по назначению персональных и академических пенсий республиканского значения при Совнаркоме УзССР (с. 20)

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 1. — Воп. 1. — Адз. зах. 24.

Копія даведкі заверана ў VI Ленінградскай натарыяльнай канторы 3.08.1949 г., № 31017.

### З навуковай спадчыны прафесара Ф. А. Бельскага (с. 20)

Упершыню — бібліягр. даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский», с. 17.

Спіс складзены ўласнаручна прафесарам Ф. А. Бельскім 20.09.1947 г. у Ленінградзе і ўключае апублікаваныя навуковыя даследаванні і артыкулы. Аўтарскія анатацыі друкуюцца з невялікімі скарачэннямі.

У гэты спіс не ўлучаны шэраг публікацый у перыядычных выданнях: *Бєльський, Ф.* Перші кроки діяльності «Наукового товариства на Донеччині в м. Луганському» // Радянська школа, 1927, № 1; *Бельский, Ф.* Научная работа в Луганске // Луганская правда, 1928, 27 марта і інш.

Магчыма, анатацыя да працы «Об изучении критики» ўтрымлівае не зусім дакладныя звесткі. У шэрагу крыніц час правядзення І Усерасійскага з'езда выкладчыкаў рускай мовы падаецца наступны: з 27 снежня 1916 г. па 4 студзеня 1917 г.

Упершыню друкуецца спіс рукапісных прац. Напрыканцы брашуры Ф. Бельскага «Педагогіка як наука» (1929) рукою прафесара зроблена прыпіска:

«Имеются в рукописях:

1. Воспитание мужества и геройства у советских школьников.
2. Воспитание стойкости и инициативы у учащихся старшего школьного возраста.
3. Самоотверженный труд как фактор коммунистического воспитания учащихся юношеского возраста.
4. Прогрессивные идеи в педагогике И. И. Бецкого».

У асабістым архіве праф. Ф. А. Бельскага таксама ёсць рукапісы прац «Как... нужно работать с книгой?», «Методы нравственного воспитания учащихся старших классов средней школы» (захаваўся часткова) і інш.

### Матэрыялы і публікацыі пра Ф. А. Бельскага (с. 29)

Упершыню — бібліягр. даведнік «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский», с. 26.



Спіс істотна пашыраны, дапоўнены шматлікімі крыніцамі. Аднак ён не прэтэндуе на ўсеахопнасць і завершанасць. Патрабуецца далейшая мэтанакіраваная пошукавая дзейнасць па стварэнні інфармацыйна-бібліяграфічнай базы даных па тэме «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі».

## II. АРТЫКУЛЫ І ЎСПАМІНЫ

### *Филипович Олександр.* Златопільські роки в житті М. К. Зерова (уривки) (с. 45)

Упершыню — Безсмертні: зб. спогадів про М. Зерова, П. Филиповича і М. Драй-Хмару / Ін-т літ. ім. М. Ореста; ред. текстів та прим. М. Ореста. — Мюнхен, 1963, с. 31, адкуль і передрукоўваюцца асобныя фрагменты з тэксту.

Успаміны друкаваліся ў газ. «Народне слово», 1991, 25 ліп.

Тэкст А. Філіповіча таксама змешчаны ў выд.: Київські неокласики / упоряд. В. Агеєва. — Київ: Факт, 2003. — С. 131—136. — (Українські мемуари).

Гэтыя ўспаміны аўтар напісаў у ЗША. У сваіх «Спогадах про брата» А. Філіповіч таксама згадвае Ф. А. Бельскага, літаратурны гурток, якім кіраваў ён у Златапальскай гімназіі (зб. «Безсмертні», с. 107—108).

Тэкст пададзены з захаваннем асаблівасцей аўтарскай лексікі і стылю.

У зборніку «Безсмертні» ёсць уклейка з выявай вокладкі часопіса «На пути к искусству», які выдаваў гурток «Любителей словесности» пад рэдакцыяй Ф. А. Бельскага.

Сяргей Белаконь, доктар гістарычных навук, са спасылкай на ўспаміны А. Філіповіча ў даследаванні «Микола Зеров» адзначае:

«Один з викладачів, Хома Бєльський, організував при чоловічій гімназії гурток прихильників письменства, який видавав збірники "На пути к искусству". Тут було вміщено один з перших перекладів Зерова — "Античная медаль" з Леконта де Ліля» (Рэжым доступу: www.s-bilokin.name/Personalia/Zerov.html - ).

*Філіповіч Аляксандр Пятровіч* (1902—?) — родны брат вядомага ўкраінскага паэта, перакладчыка і літаратуразнаўца Паўла Філіповіча (1891—1937), які таксама навучаўся ў Златапальскай мужчынскай гімназіі (1902—1908). А. Філіповіч напісаў успаміны пра Златапальскую гімназію, М. Зэрава, А. Філіповіча, Ю. Клёна.

У 1954 годзе ён атрымаў амерыканскае грамадзянства. Жыў у Мінеапалісе.

### *Зенько Владимир.* Вспоминая профессора Бельского (с. 47)

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле рукапіснага арыгінала, які захоўваецца ў асабістым архіве прафесара Ф. А. Бельскага. — Папка 2. — Воп. 2. — Адз. зах. 7.

*Зянько Уладзімір Дзмітрыевіч* (1917—1998) — педагог, з 1945 г. працаваў у Вялікараёўскай сярэдняй школе Капыльскага раёна, з 1959 па 1978 г. быў на пасадзе дырэктара гэтай навучальнай установы, скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1939), з самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны на фронце, быў паранены, ваяваў у партызанах, у 1944 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт, ваяваў на 1-м Прыбалтыйскім фронце, узнагароджаны ордэнам Славы III ступені, медалём «За адвагу» і інш.

***Ятель Тамара*. Оглядываясь в прошлое... (с. 48)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

Артыкул падрыхтаваны спецыяльна для гэтага выдання.

Гэтыя нататкі — працяг ранейшых успамінаў Т. Яталь «Мой дорогой дядя Фома», якія надрукаваны ў бібліягр. даведніку «Прафесар Фама Антонавіч Бельскі = Профессор Фома Антонович Бельский», с. 27, а таксама ў калектыўным зборніку «І прызванне, і лёс», с. 28.

*Яталь Тамара Пракопаўна* (1923—2015) — кандыдат медыцынскіх навук, скончыла аспірантуру АН УССР (1949), з 1952 па 1985 г. працавала ў Інстытуце інфекцыйных хвароб Міністэрства аховы здароўя Украіны, аўтар звыш 120 навуковых прац, надрукаваных ва Украіне, Расіі, Беларусі, ЗША, Балгарыі і іншых краінах, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

***Бельский Анатолий*. «Дядя Фома заслуживает этого...» (с. 60)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле рукапіснага арыгінала, які захоўваўся ў Кіеве сярод прыватнай перапіскі Т. Яталь, а пасля быў перададзены на захаванне сям'і стрыечнага брата Алеся Бельскага (г. Мінск).

Ліст адрасаваны пляменнікам Фамы Бельскага Георгію і Тамары Яталям.

Георгій Пракопавіч Яталь (1928—1998) — доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Акадэміі навук вышэйшай школы Украіны, у 1960—1998 гг. быў загадчыкам кафедры замежных моў Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта будаўніцтва і архітэктуры, аўтар звыш 150 навуковых і метадычных прац.

*Бельскі Анатоль Іванавіч* (1949—1994) — педагог, краязнавец, у 1966 г. паступіў на гістарычны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага, пасля заканчэння якога настаўнічаў на заходнім Палессі, працаваў завучам Вялікараёўскай сярэдняй школы Капыльскага раёна, з 1971 г. па 1994 г. — дырэктар Руднянскай базавай школы гэтага ж раёна, аўтар публікацый у раённым друку і рэспубліканскіх выданнях.

***Ігнатчык Іван*. Тут жыцця яго вытокі...**
**(урыўкі з гісторыка-краязнаўчага нарыса) (с. 62)**

Урыўкі з тэксту друкуюцца паводле аўтарскага арыгінала.

Гісторыка-краязнаўчы нарыс І. Ігнатчыка прысвечаны Цімкавіцкай сярэдняй школе імя Кузьмы Чорнага і напісаны ў 2012 годзе.

*Ігнатчык Іван Рыгоравіч* (нар. у 1941 г.) — журналіст, краязнавец, скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут (1973), быў загадчыкам Цэнтральнай фоталабараторыі г. Сяміпалацінска, звыш 30-ці гадоў працаваў у рэдакцыі капыльскай раённай газеты «Слава працы», аўтар шматлікіх публікацый у раённым і рэспубліканскім друку.

***Анпілогова Тетяна*. Життя в ім'я служіння науці:**
**науково-педагогічна діяльність Фоми Антоновича Бєльського**
**на Луганщині (с. 68)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.



Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

*Анпілогава Таццяна Юр'еўна* (нар. у 1980 г.) — кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Айчыны Луганскага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі, скончыла Луганскі нацыянальны дзяржаўны ўніверсітэт імя Тараса Шаўчэнкі (2003) і аспірантуру пры гэтай навучальнай установе (2006), член Нацыянальнага саюза краязнаўцаў Украіны, аўтар 10 вучэбна-метадычных дапаможнікаў, шматлікіх навуковых артыкулаў.

Тэма кандыдацкай дысертацыі Т. Ю. Анпілогавай — «Гуманітарная інтэлігенцыя Данбасу ў перыяд новай эканамічнай палітыкі (1921—1928 гг.)».

Біёграф Ф. А. Бельскага, аўтар шэрагу публікацый, у якіх асвятляецца яго жыццё і творчая дзейнасць.

***Адаменко Елена*. Работы Фомы Антоновича Бельского**
**на страницах журнала**
**«Просвещение Донбасса / Радянська школа» (с. 81)**

Упершыню — у выд.: Современное педагогическое знание: проблемы и перспективы развития: сб. науч. статей по итогам педагогических чтений, посв. 100-летию кафедры педагогики, Могилёв, 17 дек. 2013 г. / под науч. ред. Е. И. Снопковой. — Могилёв: МГУ им. А. А. Кулешова, 2014. — С. 10.

*Адаменка Алена Віктараўна* (1955—2014) — доктар педагагічных навук, прафесар, выдатнік адукацыі Украіны, скончыла Варашылаўградскі машынабудаўнічы інстытут (1977), працавала інжынерам на заводзе ў г. Ноўгарадзе, з 1978 г. у Луганскім нацыянальным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі на пасадах асістэнта, старшага выкладчыка, дацэнта, прафесара, з 1997 г. — дэкан факультэта дапрафесійнай падрыхтоўкі, была таксама прафесарам кафедры дзяржаўнай службы, адміністравання і кіравання, аўтар звыш 150 навуковых і навукова-метадычных прац, у тым ліку манаграфіі «Українська педагогічна наука в другій половині ХХ століття» (2005) і іншых асобных выданняў, уганаравана знакам «Васіль Сухамлінскі» (2006).

***Принь Марина*. Ф. А. Бєльський і становлення музейної справи**
**на Луганщині в 1920-ті роки (с. 92)**

Упершыню — Праці Центру пам'яткознавства: зб. наук. праць. — Вип. 21. — Київ, 2012, с. 119.

Артыкул пад назвай «Музейна справа в Луганській області» таксама размешчаны па адрасе ў інтэрнэце на старонцы ўкраінскай «Вікіпедыі». — Рэжым доступу: uk.wikipedia.org/.../Музейна_справа_в_Луган... — Дата доступу: 1.09.2013.

*Прынь Марына Алегаўна* (нар. у 1980 г.) — кандыдат гістарычных навук, скончыла Усходнеўкраінскі нацыянальны ўніверсітэт імя У. І. Даля (2002), аспірантуру Цэнтра помніказнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Украіны і Украінскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (2012), працавала галоўным спецыялістам агульнага аддзела выканаўчага апарату Луганскага абласнога савета, цяпер — у Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя У. І. Вярнадскага, навуковы супрацоўнік Інстытута архівазнаўства, аўтар шэрагу навуковых публікацый.

Тэма кандыдацкай дысертацыі М. А. Прынь — «Ахова, вывучэнне і выкарыстанне помнікаў гісторыі і культуры на Данеччыне і Луганшчыне ў 20-х — пачатку 30-х гг. XX ст.» (2012).

### *Жигалова Мария.* Ф. А. Бельский в мультикультурном научно-педагогическом пространстве: российский контекст (с. 101)

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

*Жыгалава Марыя Пятроўна* (нар. у 1951 г.) — доктар педагагічных навук, сапраўдны член Акадэміі педагагічных і сацыяльных навук Расійскай Федэрацыі, заслужаны настаўнік Беларусі, скончыла Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна (1973), дактарантуру Расійскай акадэміі адукацыі ў Маскве (2005), настаўнічала ў сярэдніх школах Брэстчыны (1967—1993), з 1993 г. пачала працаваць выкладчыкам у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна, у гэтай навучальнай установе займала пасады дацэнта, пазней прафесара кафедры тэорыі і гісторыі рускай літаратуры, у 2012—2014 гг. — дырэктар Інстытута павышэння кваліфікацыі УА «Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна», цяпер працуе на кафедры педагогікі, аўтар больш як 200 навуковых прац, лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Калесніка (2011).

### *Бельскі Алесь.* Магілёўскі перыяд жыцця і дзейнасці Ф. А. Бельскага (с. 112)

Упершыню — «Краязнаўчая газ.», 2013, № 19, май, с. 4, № 20, май, с. 4.

Дапрацаваны варыянт артыкула пад назвай «Магілёўскі перыяд жыцця і дзейнасці Ф. А. Бельскага» змешчаны ў выд.: Современное педагогическое знание: проблемы и перспективы развития: сб. науч. статей по итогам педагогических чтений, посв. 100-летию кафедры педагогики, Могилёв, 17 дек. 2013 г. / под науч. ред. Е. И. Снопковой. — Могилёв: МГУ им. А. А. Кулешова, 2014. — С. 32.

*Бельскі Алесь Іванавіч* (нар. у 1963 г.) — доктар філалагічных навук, прафесар, прафесар кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у 2000—2002 гг. быў загадчыкам лабараторыі літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура», лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, аўтар шматлікіх кніг і больш як 500 публікацый у друку.

### *Снопкова Елена.* Личность Ф. А. Бельского в контексте истории кафедры педагогики Могилёвского государственного университета имени А. А. Кулешова (с. 121)

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

Асобныя яго палажэнні і фрагменты знайшлі адлюстраванне ў шэрагу публікацый гэтага аўтара: «Первые преподаватели педагогики Могилёвского государственного университета им. А. А. Кулешова» (2012), «История кафедры как средство идейно-нравственного и духовного воспитания студенческой молодежи» (2012), «Кафедра педагогики: страницы истории (1913—2013)» (2013), «Научно-инновационный опыт кафедры педагогики МГУ имени А. А. Кулешова: история и современность» (2013), «Роль гуманитарной кафедры в профессионально-личностном становлении будущего специалиста» (2013), «История кафедры — история вуза» (2014) і інш.

*Снапкова Алена Іванаўна* (нар. у 1968 г.) — кандыдат педагагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры педагогікі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, пасля заканчэння з адзнакай Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова (1990) працавала настаўніцай сярэдняй школы № 40 г. Магілёва, затым выкладала ў Магілёўскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі, скончыла аспірантуру Акадэміі паслядыпломнай адукацыі (2002), аўтар звыш 180 навуковых прац: манаграфій, падручнікаў, вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, шматлікіх матэрыялаў навуковых канферэнцый.

### *Пальчевский Борис, Бельский Алесь.* Научно-педагогическая деятельность Ф. А. Бельского в Узбекистане (с. 126)

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

*Пальчэўскі Барыс Васільевіч* (нар. у 1944 г.) — доктар педагагічных навук, прафесар, скончыў інжынерна-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1967), аспірантуру Навукова-даследчага інстытута школьнага абсталявання і тэхнічных сродкаў навучання Акадэміі педагагічных навук СССР з абаронай кандыдацкай дысертацыі (1974), дактарантуру Навукова-даследчага інстытута працоўнага навучання і прафесійнай арыентацыі Акадэміі педагагічных навук СССР з абаронай доктарскай дысертацыі (1988), працаваў інжынерам аддзела навуковай арганізацыі працы Мінскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, загадчыкам лабараторыі, старшым выкладчыкам, дацэнтам, прафесарам кафедры педагагічных дысцыплін (1967—1992), дэканам факультэта грамадскіх прафесій (1974—1988) Беларускага політэхнічнага інстытута, прарэктарам па навуковаметадычнай рабоце, загадчыкам кафедры метадалогіі навучання Акадэміі паслядыпломнай адукацыі (1992—1999), загадчыкам лабараторыі праектавання адукацыйных сістэм Нацыянальнага інстытута адукацыі (1999—2011), у 1988 г. у адпаведнасці з загадам Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР працаваў у складзе экспертнай камісіі па вызначэнні якасці вучэбна-выхаваўчай работы Бухарскага тэхналагічнага інстытута, цяпер — прафесар кафедры інфармацыйных тэхналогій у адукацыі Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі, аўтар і суаўтар звыш 400 навукова-метадычных прац, падрыхтаваў больш як 15 кандыдатаў педагагічных навук, быў навуковым кансультантам па 4 доктарскіх дысертацыях.

### *Бельский Алесь, Тамара Ятель.* Война в жизни и судьбе профессора Ф. А. Бельского (с. 139)

Упершыню — Великая Отечественная война в мировой и отечественной истории: материалы Междунар. науч.-практ. конф., посвящ. 70-летию

Победы над нацистско-немецкими захватчиками / редкол.: Т. Ю. Анпилогова (гл. ред.) [и др.]. — Луганск, 2015. — С. 17.

### *Бельскі Алесь.* Вучоны-педагог Ф. А. Бельскі: генезіс поглядаў на адукацыю і выхаванне дзяцей (с. 148)

Упершыню — у выд.: Философско-педагогические проблемы непрерывного образования: сб. науч. статей / под ред. М. И. Вишневского, Е. И. Снопковой. — Могилёв: МГУ им. А. А. Кулешова, 2015. — С. 4.

Прачытаны як даклад на пленарным пасяджэнні Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Філасофска-педагагічныя праблемы бесперапыннай адукацыі» (Магілёў, МДУ імя А. А. Куляшова, 14 мая 2015 г.).

### *Бельская Елена.* «Самый дорогой и близкий в этом мире человек...»: последний период жизни профессора Ф. А. Бельского (на основе эпистолярных источников) (с. 156)

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

*Бельская Алена Уладзіміраўна* (нар. у 1966 г.) — адказны сакратар навукова-метадычнага часопіса «Беларуская мова і літаратура», пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1988) працавала ва ўстановах адукацыі г. Мінска, загадвала аддзелам рэдпадрыхтоўкі Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей, аўтар шматлікіх публікацый у перыёдыцы, укладальнік некалькіх кніг, у суаўтарстве пераклала на беларускую мову 3 вучэбныя дапаможнікі.

### *Бельскі Алесь.* Асоба і творчасць Ф. А. Бельскага ў даследаваннях і публікацыях 2000-х гадоў: агляд (с. 163)

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

## III. ВЯНОК ПАМЯЦІ

### *Гучок Яўген.* Пакутнік-пілігрым (с. 172)

Упершыню — у газ. «Наша слова», 2015, 3 чэрв., с. 6.

*Гучок Яўген Сяргеевіч* (нар. у 1940 г.) — паэт, празаік і публіцыст, нарадзіўся ў г. Слуцку, пасля вучобы ў слуцкай сярэдняй школе № 9 працаваў у геалагічным атрадзе, на мэблевай фабрыцы, затым, у 1960—1963 гг., служыў у Савецкай Арміі, скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1968), а пазней аспірантуру пры ім, настаўнічаў, а з 1971 па 2001 г. на працягу 30-ці гадоў працаваў рэдактарам і вядучым рэдактарам у выдавецтве «Народная асвета», аўтар зборнікаў паэзіі «Белое чудо» (1976), «Блакітныя чмялі» (1983), «Сэрцам і думкай» (1994), «Формула травы» (1997; 2-е выд. — 2002), «На патрэбу душы» (2004), «Nekropolis» (2009), выдаў кнігі «Ах, Родчанка!..» (2011), «Беларусь у Магдэбургскім праве» (2013), «Альгерд Абуховіч: зачараваны беларускім словам» (2014) і інш., друкаваўся ў ЗША, Індыі, Польшчы, Расіі, Чэхіі.



Тэксту паэмы-эсэ папярэднічае «Слова да чытача» Алеся Бельскага, доктара філалагічных навук, пляменніка Ф. А. Бельскага:

«Беларускі паэт Яўген Гучок, які нарадзіўся ў Слуцку, стварыў паэму-эсэ пра свайго земляка і майго дзядзьку прафесара педагогікі Фаму Бельскага (1890—1952) да 125-годдзя з дня яго нараджэння. Напісаў яе, не буду ўтойваць гэта, па маёй замове. Тут можна згадаць добра вядомую літаратурную аналогію. Калісьці ў Рыме папа Леў Х звярнуўся да паэта Міколы Гусоўскага з просьбай, каб той напісаў твор пра паляванне на зубра. Прыкладаў замовы, у тым ліку сацыяльнай, у літаратуры нямала. Мы памятаем, што Гусоўскі ў сваім творы не толькі яскрава намаляваў вобраз зубра, але і стварыў пранікнёную патрыятычную песню пра наш беларускі край, асэнсаваў значныя праблемы свайго часу. Пасля знаёмства з паэмай-эсэ "Пакутнік-пілігрым" я пераканаўся, што паэт Яўген Гучок распавёў не толькі пра драматычны лёс вучонага-асветніка Фамы Бельскага, але і здолеў выйсці на ёмістыя і глыбокія сацыяльна-філасофскія абагульненні пра радзіму і повязь з роднай зямлёй, чалавека і час, асобу вучонага і яго пазіцыю, прызначэнне педагогікі і навукі, яе адносіны з уладай і палітыкай, ролю школы і настаўніка, адукацыі і культуры ў жыцці грамадства.

Хто ж ён, Фама Бельскі, якому прысвяціў цэлую паэму Яўген Гучок?

Фама Бельскі — філолаг, вучоны ў галіне педагогікі і псіхалогіі, краязнавец, музеёлаг, педагог. Ён нарадзіўся ў славутым мястэчку Цімкавічы Слуцкага павета (цяпер гэта Капыльскі раён). Яго дзед Сільвестр быў выпускніком літаратурнага факультэта Віленскага ўніверсітэта, вучыўся ў адзін час з Адамам Міцкевічам, Ігнатам Дамейкам і іншымі філаматамі ды філарэтамі. З сярэбраным медалём Ф. Бельскі скончыў Слуцкую гімназію (1909), Кіеўскі ўніверсітэт з дыпломам першай ступені (1913). З 1925 года — прафесар педагагічных навук. Ён стаў першым значным вучоным з мястэчка Цімкавічы і Капыльшчыны ў ХХ стагоддзі. Працаваў ва Украіне, у Беларусі, Расіі, Узбекістане. У даваенны час у Магілёўскім пединстытуце ён быў стваральнікам кафедры педагогікі і псіхалогіі, яе загадчыкам.

Усе свае лепшыя працы Ф. Бельскі напісаў на ўкраінскай мове ў 1920-я гады. Ён добра валодаў некалькімі замежнымі мовамі, але заўсёды ў лістках па ўліку кадраў пазначаў сваю родную — беларускую. Дарэчы, у Магілёве будучым настаўнікам і маладым літаратарам лекцыі ён чытаў па-беларуску. Многае ў біяграфіі і творчай дзейнасці Ф. Бельскага пазначана словамі "першы" ці "ўпершыню". Ён быў адным з першых прафесараў Данецкага інстытута народнай адукацыі і Магілёўскага пединстытута, пачынальнікам музейнай справы і краязнаўчага руху на Луганшчыне, ініцыятарам стварэння першых навуковых таварыстваў на Данеччыне, школ для таленавітых дзяцей і інш. Вельмі шмат часу аддаваў працы з літаратурна адоранымі дзецьмі і студэнтамі. Гэта ён надрукаваў першы пераклад з французскай мовы будучага славутага паэта Украіны Міколы Зэрава, з якім разам вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, а затым працаваў у Златапальскай гімназіі.

У 1932 г. прафесар на вучоным савеце Херсонскага пединстытута выступіў з крытыкай метаду політэхнізацыі, і гэтае яго выступленне і пазіцыя была расцэнены як ідэалагічна нявытрыманыя, варожыя. Фаму Антонавічу пагражалі пазбаўленнем права выкладаць у ВНУ, рыхтаваліся дакументы на арышт.

З гэтага часу і пачынаюцца ўцёкі, вандраванні вучонага па Савецкім Саюзе. Усе цяжкасці і нягоды з ім раздзяліла яго жонка, верная спадарожніца жыцця Кацярына Міхайлаўна. На жаль, Фама Бельскі сталінскую ўладу не перажыў, да апошніх дзён жыцця марыў вярнуцца ў родныя Цімкавічы. Не стала яго ў 1952 годзе. З 1932 па 1943 г. вучоны не надрукаваў ніводнай працы, якая нейкім чынам скампраметавала б яго. Гэта быў свядомы і сумленны выбар вучонага. І толькі ў гады вайны з'явіўся яго артыкул з красамоўнай назвай "Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў" (1943).

Пра жыццё і дзейнасць Ф. Бельскага апавядае кніга "І прызванне, і лёс" (2012), а таксама дзясяткі артыкулаў у беларускім і ўкраінскім друку, яго імя фігуруе ў шматлікіх энцыклапедычных і даведачных выданнях: "Беларуская энцыклапедыя", "Беларускае замежжа", "Сузор'е беларускага памежжа" і інш.

Неардынарнай асобе і лёсу вучонага прысвяцілі свае вершы С. Панізнік, В. Стралко, Л. Забалоцкая, С. Чыгрын, А. Петрушкевіч, В. Рагаўцоў, А. Гібок-Гібкоўскі і інш. Мне імпануе ўдумлівае, разважлівае інтэлектуальна-філасофскае слова Я. Гучка, таму яго паэму-эсэ з прыемнасцю прапаную ўвазе чытачоў "Нашага слова"».

**_Забалоцкая Людміла._ «Сініцы на яблынях ціўкаюць...» (с. 183)**

Урывак з трыпціха друкаваўся ў выд.: Современное педагогическое знание: проблемы и перспективы развития: сб. науч. статей по итогам педагогических чтений, посв. 100-летию кафедры педагогики, Могилёв, 17 дек. 2013 г. / под науч. ред. Е. И. Снопковой. — Могилёв: МГУ им. А. А. Кулешова, 2014, с. 9.

Вершаваны твор напісаны да 125-годдзя з дня нараджэння Ф. А. Бельскага.

**«Дождж жаўталісце кранае датклівае...» (с. 185)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

*Забалоцкая Людміла Васільеўна* (нар. у 1949 г.) — паэтка і перакладчыца, нарадзілася ў г. Крычаве Магілёўскай вобласці, скончыла Крычаўскае медыцынскае вучылішча (1968) і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1974), працавала навуковым рэдактарам у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі імя П. Броўкі (1974—1984), рэдактарам на Беларускім тэлебачанні (1984—1985), педагогам, затым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Пралеска» (1991—1995), у выдавецтве «Полымя»; з 1996 г. — у часопісе «Адукацыя і выхаванне», цяпер працуе рэдактарам выдавецтва «Адукацыя і выхаванне»; аўтар зборнікаў «Сакавік» (1974), «Радаводны васілёк» (1981), «Святло палыну» (1989), «Струны памяці» (1991), «У суладдзі стагоддзяў і дзён» (2004), пераклала на беларускую мову раман В. Скота «Айвенга» (1997).

**_Панізьнік Сяргей._ «Знікае дажджоў завеса...» (с. 186)**

Упершыню — у выд.: Современное педагогическое знание: проблемы и перспективы развития: сб. науч. статей по итогам педагогических чтений, посв. 100-летию кафедры педагогики, Могилёв, 17 дек. 2013 г. / под науч. ред. Е. И. Снопковой. — Могилёв: МГУ им. А. А. Кулешова, 2014, с. 8.



*Панізьнік Сяргей Сцяпанавіч* (нар. у 1942 г.) — паэт, празаік і перакладчык, нарадзіўся ў в. Бабышкі на Віцебшчыне, скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча (1962), працаваў фельчарам Княжыцкай бальніцы каля Магілёва, у 1962—1967 гг. служыў у Савецкай Арміі, скончыў Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча (1967), у 1976 г. працаваў фельчарам траўмабрыгады на станцыі хуткай дапамогі ў Мінску; у 1977—1978 гг. — стыльрэдактар у газеце «Вячэрні Мінск», з 1980 г. — рэдактар Дзяржтэлерадыё БССР, з 1982 г. — рэдактар, а з 1984 — загадчык рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва», з 1989 — вядучы рэдактар гэтага выдавецтва, працаваў таксама ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы; аўтар паэтычных зборнікаў «Кастры Купалля» (1967), «Палявая пошта» (1972), «Крона надзеі» (1975), «Чало і век» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982), «Мацярык» (1985), «Стырно» (1989), «Жыцень» (1989), «А пісар земскі...» (1994), «Пры свячэнні» (2004), «На ўсе вякі» (2011), «Нас — многа!» (2012), кнігі перакладаў «Сустрэча роднасных сусветаў» (1997), дакументальных аповесцей «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия» (1990; 2013), кнігі публіцыстыкі «Пасля вогненных вёсак...» (1980), зборнікаў для дзяцей «Адкуль вясёлка п'е ваду» (1981), «Мы — грамацеі!» (1989), «Золкая зёлка» (1999), укладальнік шматлікіх зборнікаў і альманахаў, узнагароджаны латвійскім ордэнам Трох Зорак (1998), медалямі.

**_Стрілко Валерій._ Сіяч (с. 187)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

*Стралко Валерый Васільевіч* (нар. у 1938 г.) — перакладчык і паэт, нарадзіўся ў м. Любеч на Чарнігаўшчыне ў сям'і настаўнікаў-філолагаў, скончыў Херсонскі суднамеханічны тэхнікум імя адмірала Ф. Ф. Ушакова (1960), Новасібірскі электратэхнічны інстытут (1969), будаваў караблі ў Херсоне, служыў на Чарнаморскім ваенна-марскім флоце, настаўнічаў на Херсоншчыне, працаваў у навукова-даследчых інстытутах Сібірскага аддзялення АН СССР; у 1970 г. па запрашэнні прыехаў у Мінск, дзе працаваў да выхаду на пенсію як спецыяліст у галіне прыкладной кібернетыкі ў навукова-даследчых і праектных інстытутах; з 1998 г. выступае як перакладчык, выдае кнігі ў Беларусі і Украіне, у 2000 г. прыняты ў Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны, у 2001 г. — у Саюз беларускіх пісьменнікаў, у 2008 г. — у Міжнародны ПЭН-клуб (Беларускі ПЭН-цэнтр); аўтар дзіцячай кніжкі «Тук-тук-тук» (1999), кніг перакладаў «Непагасны агонь» (2003), «Тарас на Парнасе» (2003), «Новая зямля» (2006) Якуба Коласа, «Любіць бы вечна...» (2007) Алеся Пісьмянкова, «Трыяда славянскай паэзіі» (2008), «Кругляянскі мост» (2011) Васіля Быкава і інш., сярод перакладзеных ім украінскіх аўтараў — Тарас Шаўчэнка, Іван Франко, Леся Украінка, Мікола Зэраў, Міхайла Драй-Хмара, Васіль Стус, Іван Драч, Дзмітро Паўлычка, Барыс Алейнік, Ліна Кастэнка і інш., сярод перакладзеных беларускіх пісьменнікаў — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і інш., лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко (2003), Міжнароднай літаратурна-мастацкай прэміі імя Грыгорыя Скаварады Фонду культуры Украіны (2013), узнагароджаны медалём «Ганаровая адзнака» Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны (2006).

***Петрушкевіч Ала.* Слова (с. 187)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

Верш напісаны да 125-годдзя з дня нараджэння Ф. А. Бельскага.

*Петрушкевіч Ала Мікалаеўна* (нар. у 1960 г.) — паэтка, празаік, літаратуразнаўца, крытык, педагог, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, нарадзілася ў в. Шчонава Карэліцкага раёна, скончыла беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981), працавала ў школах Шчучынскага і Карэліцкага раёнаў, навучалася ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, якую скончыла ў 1992 г.; з 1992 па 2015 г. працавала ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (з 1998 г. на пасадзе дацэнта); аўтар звыш 250 навуковых і вучэбна-метадычных прац, выдала кнігі: «Іду па слядах» (1997), «Пра творы і творцаў» (2002), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2009), «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах» (2009), «Наталля Арсеннева: шлях да Беларусі» (2013), «Старонкі Гарадзеншчыны літаратурнай» (2015) і інш., аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак» (1997).

***Чыгрын Сяргей.* Развітанне Фамы Бельскага з Беларуссю (с. 188)**

Упершыню — «Краязнаўчая газ.», 2015, № 45, снежань, с. 6.

*Чыгрын Сяргей Мікалаевіч* (нар. у 1958 г.) — паэт, перакладчык, краязнавец, журналіст, літаратуразнавец і крытык, нарадзіўся ў в. Хадзявічы Слонімскага раёна, у 1974 г. скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча, служыў у Савецкай Арміі, скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985), настаўнічаў, быў намеснікам галоўнага рэдактара «Газеты Слонімскай», цяпер працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра; аўтар зборнікаў паэзіі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009), кніг гісторыка-краязнаўчых і літаратурных артыкулаў «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Беларуская Беласточчына» (2008), «Тэатр у Слоніме» (2008), «Мастак Антон Карніцкі» (2009), «Жыў роднай песняй» (2010), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012), «Іншых шляхоў не было» (2013), «Хочацца дахаты» (2014) і інш., на беларускую мову пераклаў вершы ўкраінскіх паэтаў Р. Елішэвіча, В. Бойчанкі, Л. Пшанічнай і інш., французскіх паэтаў П. Элюара, Л. Мішэль, Э. Пацье, П. Верлена, п'есы А. Хайта, К. Манье, Э. Успенскага, К. Гальдоні, А. Астроўскага, С. Міхалкова, С. Пракоф'евай, Н. Абрамцавай, Г. Лабакіна, К. Папова і інш., укладальнік шэрагу кніг літаратурнай спадчыны беларускіх пісьменнікаў.

***Падлiпская Зоя.* «Здаецца, да ўсяго ў жыцці прывык...» (с. 189)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

Верш напісаны да 125-годдзя з дня нараджэння Ф. А. Бельскага.



*Падліпская Зоя Іванаўна* (нар. у 1964 г.) — паэтка, літаратуразнаўца, публіцыст, педагог, нарадзілася ў в. Сярагі Слуцкага раёна, вучылася ў Мінскім медыцынскім вучылішчы № 2, скончыла Слуцкае медыцынскае вучылішча (1983), Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка (1994), аспірантуру пры ім (2004), працавала медсястрой у дзіцячай паліклініцы, выхавальнікам у дзіцячым садку, настаўніцай сярэдняй школы № 10 імя С. Ф. Рубанава г. Слуцка, арганізатарам у аддзеле адукацыі Слуцкага гарвыканкама, з 2001 г. — у Мінскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, дзе працавала метадыстам, начальнікам аддзела выхаваўчай работы, затым — навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі, начальнік аддзела грамадска-гуманітарнай адукацыі, прарэктар па вучэбнай рабоце Мінскага гарадскога дзяржаўнага інстытута павышэння кваліфікацыі спецыялістаў адукацыі, у 2007—2009 гг. — галоўны інспектар упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, з 2009 г. — галоўны рэдактар навукова-метадычнага часопіса «Роднае слова»; аўтар зборнікаў паэзіі «Палон нябёсаў» (1998), «У вэлюме завей» (2005), «На мове сэрца» (2013; у суаўт.), «Малюся зорам» (2014), адзначана нагрудным знакам «Выдатнік друку Беларусі» (2013), медалём Імператарскага ордэна Святой Ганны (2013) і інш.

***Гібок-Гібкоўскі Алесь.* Лебядзіная песня (с. 190)**

Тэкст друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага арыгінала.

*Гібок-Гібкоўскі Алесь Сямёнавіч* (нар. у 1952 г.) — паэт, журналіст, перакладчык, бард, яго бацька Сямён Фёдаравіч родам з вёскі Комсічы, што побліз Цімкавіч, маці Анастасія Маркаўна — украінка; у 1971 г. скончыў Мінскі машынабудаўнічы тэхнікум, служыў у Савецкай Арміі, з 1974 па 1990 г. працаваў інжынерам, канструктарам у шэрагу мінскіх канструктарскіх бюро, у 1995 г. скончыў вячэрняе аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, з 1990 г. працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 160 г. Мінска, з 1993 г. — рэдактар аддзела беларускай літаратуры навукова-метадычнага часопіса «Роднае слова», з 1996 г. — рэдактар грамадска-палітычнага аддзела часопіса «Беларусь», з 1997 па 1999 г. адначасова працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва»; аўтар зборніка вершаў «Насамрэч» (2007), пераклаў на беларускую мову кнігу Дж. Радары «Прыгоды Чыпаліны» (2010), лаўрэат прэміі «Залатое пяро» Беларускага саюза журналістаў (1999), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне журналістыкі (2001).

***Рагаўцоў Васіль.* Імгненні жыцця (с. 191)**

Упершыню — у газ. «Літ. і мастацтва», 2014, 25 ліп., с. 4, пад назвай «Колер жыцця — зялёны».

У лісце да ўкладальніка гэтай кнігі В. Рагаўцоў напісаў:

«Дасылаю невялікую нізку кароткіх вершаў, прысвечаных светлай памяці Вашага дзядзькі — прафесара Фамы Антонавіча Бельскага. Прыемна, што ягоная працоўная дзейнасць была звязана з Магілёўскім педагагічным інстытутам, дзе ён пэўны час працаваў загадчыкам кафедры педагогікі і псіхалогіі.

